23 кастрычніка 2015 | № 40 (457)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Украіна ў чаканні выбараў

стар. 11

**4 КАЛІ ГАЛОЎНАЕ НЕ ЗАРПЛАТА, ДЫК ШТО?**

Чарговая «элегантная перамога» ўпершыню была здабытая ва ўмовах падзення даходаў насельніцтва

**5 ІТ-БІЗНЕС ГУБІЦЬ ЗАЙЗДРАСЦЬ ПРАМЫСЛОЎЦАЎ**



Яшчэ зусім нядаўна бізнесмены, што працуюць у ІТ-сферы, маглі лічыць сябе сапраўднай беларускай элітай. Але ў 2015 годзе ўсё змянілася

**13 СУНІТЫ СУПРАЦЬ ШЫІТАЎ**

Прычыны супрацьстаяння і магчымыя сцэнары развіцця падзей на Блізкім Усходзе журналіст НЧ Алег Новікаў абмяркоўвае з азербайджанскім экспертам Намікам Мамедавым

**14 РУКА МАСКВЫ: ЗАБОЙСТВА Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ**



У 1923 годзе Юзаф Булак-Балаховіч загінуў у выніку замаху, падрыхтаванага, як лічаць некаторыя, Масквой

# Лібералізацыя скончаная?

## А магчыма, лібералізацыя ў Беларусі і не пачыналася



Сяргей ПУЛЬША

Улады заўсёды знойдуць, на каго паляваць. Гэтым разам, як, у прынцыпе, і заўсёды, пад раздачу трапіла патрыятычна скіраваная моладзь. А пачалося ўсё з гербу «Пагоня».

Адразу два выпадкі, звязаныя з гістарычнай сімволікай, нарабілі вэрхалу ў грамадстве. 12 кастрычніка ў Барысаве праходзіў футбольны матч паміж Беларуссю і Македоніяй. На ім былі затрыманыя пяць заўзятараў — за тое, што ў іх былі шалікі з гістарычным гербам Беларусі. Яшчэ большы розгалас набыла сітуацыя з кадэтамі Брэсцкай абласной кадэцкай вучэльні, якая знаходзіцца ў вёсцы Ястрэмбель пад Баранавічамі. Чацвёра хлопцаў выклалі ў сацыяльныя сеткі фота, дзе яны дэманструюць пад формай цішоткі з «Пагоняй».

Што да фанатаў, то ноч яны правялі ў Барысаўскім РАУСе. Больш складаная сітуацыя з кадэтамі: кіраўніцтва вучэльні нават выклікала міліцыю, каб разабрацца з нелаяльнымі маладзёнамі. Міліцыя разбірацца адмовілася, бо справа не вартая і звычайнага выкліку — проста парушэнне формы адзення. Аднак кадэтаў усё ж ідэнтыфікавалі і пачалі пагражаць ім адлічэннем.

У абарону кадэтаў — Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч. Яна назвала маладзёнаў «зорачкамі, што свецяць у цемры» і дадала, што «з іх вырастуць сапраўдныя беларускія афіцэры, якімі Беларусь можа ганарыцца». У інтэрнэце з'явіліся петыцыі ў падтрымку кадэтаў, пайшла акцыя «#пагоняпобач»... Карацей, грамадства ўсхвалявалася нежартоўна.

У выніку заўзятары атрымалі штрафы, а кадэты пакуль што застаюцца ў вучэльні. Акрамя хлопца, які выклаў гэтае фота ў сеціва. Яго забралі з інтэрнату бацькі і яшчэ думаюць, ці пакідаць дзіцёнка ў гэтай навучальнай установе наогул.

Апраўдвацца за "Пагоню" давялося міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу. Ён паведаміў, што ў краіне не існуе адміністрацыйнай ці нейкай іншай адказнасці за выкарыстанне герба «Пагоня».

Так, канешне, якая можа быць адказнасць за зарэгістраваную сімволіку? У чарговы раз нагадаю, што «Пагоня» з'яўляецца менавіта зарэгістраванай, бо ўнесеная ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Тым не менш, усім вядома, што ёсць заканадаўства, а ёсць і правапрымяняльная практыка.

Так што, калі верыць спадару Шуневічу, фанатаў затрымалі за лаянку. Але, гэта — калі верыць. Бо, па словах уладных чыноўнікаў, у нас і палітвязняў не было, усе выключна крымінальнікі.

Выключна хуліганамі былі і тыя, хто арганізаваў шэсце ў Мінску 10 кастрычніка, і тыя, хто 11-га пратэставаў супраць афіцыйных вынікаў выбараў. Зараз ім прыходзяць павесткі альбо ў РАУС, альбо адразу ў суд. Некаторыя атрымліваюць штрафы за «нецэнзурную лаянку», а некаторыя абмяжоўваюцца «прафілактычнай гутаркай» і дачай тлумачэнняў у міліцыі.

Зразумела, сённяшні ўзровень рэпрэсій не параўнаць з узроўнем 2010 года, калі пад адміністрацыйны арышт трапілі сотні людзей. Але пільная ўвага да «нязгодных», альбо проста іншадумцаў, як у выпадках з «Пагоняй», усё ж адчувальная.

Чаго нам чакаць далей? Ці будзе, як звычайна, «зацісканне гаек»?

Палітолаг Дзяніс Мельянцоў кажа, што для «закручвання гаек» зараз час вельмі неспрыяльны. Таму і заканчваюцца падобныя інцыдэнты адносна лёгка для іх удзельнікаў. «Калі мы параўнаем статыстыку затрыманняў і арыштаў пасля 2006 альбо пасля 2010 гадоў, можна сказаць, што рэпрэсіяў, «закручвання гаек» няма ўвогуле», — адзначае ён.





> **Калі рэпрэсіі і будуць, то, хутчэй, кропкавыя**

На гэта ёсць некалькі прычынаў, мяркуе Мельянцоў. Найперш — вонкавая. Улады зацікаўленыя ў «лібералізацыі» адносінаў з Еўропай. ЕС разважае пра прыпыненне санкцый адносна Беларусі і вышэйшых чыноўнікаў з перспектываю іх адмены. Вялікую ролю адыграла і Украіна: рэгулёўка гэтага канфлікту прывяла да таго, што заходнія дыпламаты сталі больш прыязна ставіцца да Беларусі. Разбурыць з такой цяжкасцю заваяваны імідж «мірнай і стабільнай» краіны беларускай уладзе вельмі не хочацца. Эканамічная сітуацыя таксама вымагае заходніх крэдытаў, для чаго патрэбная пэўная стрыманасць у дачыненні да палітычных апанентаў. І, нарэшце, адзначае палітолаг, унутры краіны зараз слабыя пратэстныя настроі грамадства. Апазіцыя ў разабраным стане, з гэтага боку выкліку ўладам няма, што спрашчае задачу ўтрымання ад рэпрэсій.

Улады могуць пайсці на рэпрэсіі толькі ў адным выпадку: калі яны пачнуць прымаць непапулярныя захады, — а менавіта гэтых захадаў вымагае сітуацыя ў эканоміцы. І калі народ пойдзе на вуліцы, ізноў пачнуцца брутальныя разгоны і затрыманні. Як у 2011 годзе, калі была жорсткая рэакцыя на «маўклівыя пратэсты».

Як мяркуе Мельянцоў, зараз «усё будзе па-іншаму». Калі рэпрэсіі і будуць, то, хутчэй, кропкавыя. А вось ці стрымаюць яны масавы пратэст — невядома. Праўда, Мельянцоў сумняецца і ў тым, што гэты масавы пратэст таксама будзе, але... Усё залежыць ад таго, наколькі далёка ўлады зойдуць у непапулярных мерах.

# Памяці Веранікі Чаркасвай

Генадзь КЕСНЕР

**Сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў 21 кастрычніка наведалі магілу нашай калегі Веранікі Чаркасавай, якая была забітая ў сваёй кватэры 20 кастрычніка 2004 года.**

Вераніка, ці проста Ніка, як яе ласкава называлі родныя, сябры і калегі, свой апошні прытулак знайшла побач з бацькам Анатолем Чаркасавым, таксама слынным беларускім журналістам, на Калодзішчанскіх могілках.

Тыя (ці той), хто здзейсніў забойства прыгожай, маладой і вельмі таленавітай жанчыны, не знойдзеныя да гэтага часу. Праваахоўныя і следчыя органы выглядаюць бездапаможнымі ў такіх справах.

Веранікі няма на гэтым свеце ўжо 11 гадоў. Але памяць пра яе жыве. Жыве ў душах тых, хто яе ведаў, хто чытаў яе рэпартажы і публікацыі, хто хоць раз бачыў гэтую чароўную жанчыну.

Так супала, што ў сераду, 21 кастрычніка, споўнілася 40 дзён ад дня сыходу з зямнога жыцця нашага любімага галоўнага рэдактара — Аляксея Сцяпанавіча Караля. Хочацца верыць, што ў гэты дзень, калі душы светлых людзей адлятаюць у Валадарства Нябеснае, душы Нікі і Сцяпанавіча сустрэнуцца. І ім там будзе добра разам з іншымі нашымі калегамі, сябрамі, блізкімі, якіх фізічна ўжо няма з намі тут побач. Хочацца ў гэта верыць. Дай Божа.

# Полацкія прадпрымальнікі папярэджваюць

Юрась ДУБІНА

**Двухдзённы страйк прадпрымальнікаў Полацка завяршыўся часовым перамір'ем паміж бізнесоўцамі і вертыкаллю. Але гэта не канец гісторыі.**

Прадпрымальнікі збіраюць подпісы да старшыні Полацкага райвыканкама Мікалая Шаўчука з патрабаваннем абвясціць мараторый на праверкі, якія сумесна ладзяць прадстаўнікі міністэрства па падатках і АБЭЗ.

Прадпрымальнікі папярэджваюць, што падобныя хваляванні могуць перакінуцца на іншыя рэгіёны Беларусі і набыць зусім іншыя маштабы, выклікаўшы сацыяльны выбух.

Нагадаем, 16 кастрычніка каля 500 прадпрымальнікаў Полацкага рынка пачалі стыхійны страйк супраць масавых праверак.

Праверкі пачаліся яшчэ 13 кастрычніка, адразу пасля завяршэння прэзідэнцкіх выбараў. Штодня падатковая інспекцыя разам з АБЭЗ правярала па шэсць прадпрымальнікаў, якіх штрафавалі і нават канфіскоўвалі тавар. Падатковая аб'явіла, што накладныя, якія бізнесоўцы атрымліваюць у Расіі, несапраўдныя.

Трыванне скончылася 16 кастрычніка апоўдні. Пасля новай праверкі прадпрымальнікі зачынілі свае працоўныя месцы, не давалі кантралёрам запаўняць дакументы, прасілі АБЭЗ і падатковую інспекцыю выйсці з ралетаў.

17 кастрычніка дэлегацыя прадпрымальнікаў сустрэлася з намеснікам старшыні Полацкага райвыканкама Аляксандрам Каладзінскім, які параіў ім шукаць праўды ў судзе.

18 кастрычніка на сходзе каля 200 чалавек пастанавілі спыніць страйк і пачалі збор подпісаў да старшыні Полацкага райвыканкама Мікалая Шаўчука з патрабаваннем абвясціць мараторый на праверкі.

«Прадпрымальнікі паказалі сябе законапаслухмянымі грамадзянамі, бо актыўна спрабавалі выканаць патрабаванне ўказа №222 «Пра рэгуляванне прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі», шляхам пошуку пастаўшчыкоў з суправаджальнымі дакументамі. Аднак у момант набыцця тавараў на аптовых рынках Расіі ІП не змаглі вызначыць сапраўднасць накладных фірм-пастаўшчыкоў. Варта адзначыць, што гэтыя дакументы прымаліся падатковымі органамі для налічэння і далейшай уплаты бізнесам 20-працэнтнай стаўкі ПДВ. Таму справядліва мелі ўпэўненасць, што прадпрымальнікі дзейнічаюць у межах заканадаўства», — гаворыцца ў звароце.

І хаця некаторыя нормы ўказа №222 страчваюць сваю сілу толькі з 1 студзеня 2016 года, улады не сталі чакаць і пачалі праверкі адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў.

«ІП вырашылі выйсці на працу, але калі зноў пачнуцца праверкі, пратэсты аднавяцца», — адзначыў у каментары «Новаму Часу» старшыня РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка.

Аднак падобна на тое, што гісторыя са страйкам не завяршылася: ГУУС Полацка выклікае найбольш актыўных удзельнікаў «на гутарку».

# Працягваецца судовы працэс над актывістам

**У Баранавіцкім судзе 20 кастрычніка прайшло другое пасяджэнне па справе Рыгора Грыка, абвінавачанага ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП) пасля таго, як ён прыйшоў на працу 24 верасня ў паласатай робе.**

У пратаколе адміністрацыйнага правапарушэння, які быў складзены без ведама актывіста, указваецца, што Рыгор Грык выказваў непавагу да грамадства і нецэнзурна лаяўся, на заўвагі на працоўным месцы не рэагаваў. Заяву ў міліцыю напісалі загадчыца крамы Вольга Борыс і яе намесніца Вольга Якубовіч, якія ў той дзень, калі Рыгор Грык прыйшоў на працу ў паласатай робе, ужо выклікалі міліцыю. Тады Грыгор Грык патлумачыў супрацоўнікам праваахоўных органаў, што ён спакойна выконвае свае абавязкі грузчыка, яго паласатая вопратка чыстая, а працоўнае спецадзенне яму не выдаюць ужо 2 гады. Тады міліцыя не ўбачыла ніякіх парушэнняў у дзеяннях Рыгора Грыка, і актывіст дапрацаваў поўную змену. Пазней высветлілася, што актывіст нібыта лаяўся матам пры наведвальніках і работніках крамы.

На першым судовым пасяджэнні, якое адбылося 15 кастрычніка, спадар Грык папрасіў даць час для азнаямлення з матэрыяламі справы, і такая магчымасць была яму прадстаўлена, а судовае пасяджэнне перанесена на пазнейшы тэрмін.

Другое судовае пасяджэнне пачалося з хадайніцтва актывіста накіраваць пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні на дапрацоўку, паколькі там няправільна ўказаны яго імя, адукацыя і наогул ён быў складзены ў ягоную адсутнасць. Суддзя адмовіў у гэтым хадайніцтве, сказаўшы, што гэта ўсё паправіцца ў працэсе разгляду справы. Пасля гэтага Рыгор Грык падаў другое хадайніцтва аб адводзе суддзі, чым выклікаў сапраўдны гнеў суддзі С. Данільчыка. Са словамі «Чаго тут выкабеньваешся?» суддзя запатрабаваў у сядзеўшага ў зале чалавека, што прыйшоў паслухаць справу, дакументы для праверкі. А другога прыйшоўшага з Грыкам прысутнага абазваў абражальным словам.

Пасля гэтага Рыгор Грык заявіў пра жаданне перанесці справу ў сувязі з тым, што яму патрэбен адвакат. Наступнае паседжанне было прызначана на 23 кастрычніка.

Рыгор Грык з сябрам напісалі скаргу на паводзіны суддзі ў кнізе скаргаў, дзе таксама актывіст напісаў аб сваім жаданні замяніць суддзю. Акрамя гэтага Грык пайшоў на прыём да старшыні суда і расказаў аб паводзінах суддзі Данільчыка і папрасіў замяніць яго, паколькі лічыць ягонае стаўленне перадузятым.

**spring96.org**

# Суддзя не здолела матываваць пастанову

Марат ГАРАВЫ

**Старшыня судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарсуда Таццяна Жулкоўская не здолела вусна абгрунтаваць пастанову пра забарону пікету каля аб'екту прыдарожнага сервісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол».**

Нагадаем, што 20 мая актывісты грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» звярнуліся да старшыні Мінрайвыканкама Пятра Ярмаша з заявамі на правядзенне пікетавання для прыцягнення ўвагі грамадства і дзяржавы да сітуацыі каля Курапатаў пасля ўзвядзення ў непасрэднай блізкасці ад урочышча «Бульбаш-холу». Падчас пікетавання, запланаванага на 4 чэрвеня ў Мінскім раёне каля ўваходу ў «Бульбаш-хол» і гіпермаркет «Бігз» на рынку «Экспабел», меркавалася выкарыстаць лозунгі наступнага зместу: «Бульбаш-хол» — здзек з Курапатаў!», «БелРэстІнвест» — прэч ад Курапатаў!», «Беларусы, абаронім Курапаты ад знявагі!», «Курапаты — месца згубы бязвінных людзей, а не месца для забаваў» і «Не — гулянкам і вяселлям ля Курапатаў!».

Аднак Пётр Ярмаш забараніў правядзенне пікетавання. Таму заяўнікі пікетавання абскардзілі распараджэнне старшыні Мінрайвыканкама ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска. 20 ліпеня суддзя Аляксандр Кузьміч адмовіў грамадзянам у задавальненні іх скаргі і стаў на бок чыноўніцтва. Паколькі грамадзяне палічылі пастанову суду першай інстанцыі незаконнай і неабгрунтаванай, яны накіравалі ў Мінгарсуд касацыйную скаргу.

Касацыйнага скарга была разгледжана 19 кастрычніка судовай калегіяй па грамадзянскіх справах Мінгарсуду ў складзе Таццяны Жулкоўскай (старшыня калегіі), Іны Угнівенка (суддзя-дакладчыца) і Алены Мурановай.

Увага суда была звернута на тое, што права на пікетаванне і свабоднае выказванне свайго меркавання з'яўляецца канстытуцыйным правам грамадзянаў. Таму службовыя асобы абавязаны стварыць усе ўмовы для рэалізацыі гэтага канстытуцыйнага права, а суд абавязаны бараніць канстытуцыйнае права грамадзянаў ад незаконных замахаў службовых асобаў.

Менавіта Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» усталёўвае парадак арганізацыі і правядзення ў краіне сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый, пікетавання і іншых масавых мерапрыемстваў.

Закон увогуле не прадугледжвае заключэння дамоваў па аказанню паслугаў, звязаных з аховай грамадскага парадку, медычным абслугоўваннем і пажарнай бяспекай. А згодна артыкулу 391 Грамадзянскага кодэксу, грамадзяне і юрыдычныя асобы вольныя ў заключэнні дамовы, а прымус у гэтай справе не дапускаецца.

Заяўнікі адзначылі, што рашэнне Мінскага райвыканкама №6557 ад 28.09.2012 г. «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у Мінскім раёне» стварае дадатковыя, не прадугледжаныя законам перашкоды для рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзянаў на пікетаванне і свабоду выказвання.

Тым больш, што вызначаныя Мінскім райвыканкамам месцы для пікетавання (стадыёны Рогаўскай сярэдняй школы ў вёсцы Новы Двор Рогаўскага сельсавету і Навапольскага аграрна-эканамічнага каледжу ў вёсцы Новае Поле Гаранскага сельсавету), знаходзяцца ад мяркуемага месца акцыі («Бульбаш-хол») на адлегласці, адпаведна, каля 25 і прыкладна 32 кіламетраў.

А згодна артыкулу 2 закона, пікетаванне — публічнае выказванне грамадзянінам ці групай грамадзянаў грамадска-палітычных, групавых, асабістых і іншых інтарэсаў альбо пратэсту, правядзенне акцыі на вызначаных Мінскім райвыканкамам месцах не адпавядае літары закону і сэнсу пікету, а таму з'яўляецца незаконным і абсурдным.

Трэба звярнуць увагу на тое, што Іна Угнівенка не давяла да сяброў калегіі доказы заяўнікаў, выкладзеныя ў іх касацыйнай скарзе. А пасля таго, як Таццяна Жулкоўская агучыла пастанову судовай калегіі, якая падтрымала рашэнне суду першай інстанцыі, старшыня так і не здолела вусна патлумачыць заяўнікам матывацыю сваёй пазіцыі.

У каментары НЧ юрыстка Тамара Сяргей зазначыла, што касацыйная вытворчасць у Беларусі з'яўляецца архаічнай. «Але суд не выканаў нават самыя неабходныя нормы гэтай архаічнай вытворчасці. Так, суддзя-дакладчыца не пазнаёміла сяброў калегіі з доказамі касацыйнай скаргі, якая адрознівалася ад скаргі заяўнікаў у суд першай інстанцыі, бо ў касацыйнай скарзе абвяргаліся абгрунтаванні пастановы суддзі Аляксандра Кузьміча. А старшыня калегіі так і не здолела прывесці ні аднаго доказу ў абгрунтаванне судовай пастановы», — сказала юрыстка. На яе меркаванне, суддзі проста выканалі чыйсьці загад і нават не палічылі неабходным трымацца фармальнасцяў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як зрабіць з нішто нічога

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Аляксандра Рыгоравіча новая задача. Яна палягае ў тым, як збудаваць новае жыццё старымі метадамі, старой камандай і, пажадана, нічога не змяняючы.**




Фота www.qwas.ru

Нарада па актуальных пытаннях развіцця краіны, якая прайшла 20 кастрычніка, павесяліла ўсіх, хто рэгулярна сочыць за выказваннямі беларускага правадыра. Найперш, Лукашэнка, канешне, адзначыў, што ягонае пераабранне на пяты тэрмін — гэта «давер авансам». «Асаблівасць праведзеных выбараў можна ахарактарызаваць наступным чынам: мы вас падтрымаем і падтрымалі, але патрэбныя змены да лепшага, — сказаў Лукашэнка на нарадзе. — У грамадстве назапасілася багата чаканняў, я б сказаў, крытычная маса чаканняў. І не задаволіць гэтыя чаканні мы не маем права», — падкрэсліў ён.

Што чакае грамадства ад Аляксандра Рыгоравіча? Найперш, на ягоную думку, павышэння жыццёвага ўзроўню, які мае два складнікі: кошты ў крамах і заробак. Наконт коштаў кіраўнік абяцаў «разабрацца». «Возьмем адно пытанне, хто ў выніку гэтага цэнаўтварэння, а яно звычайна вядзе да росту цэн (асабліва, калі гэта бескантрольна), кладзе асноўныя даходы і грошы ў кішэню. Вытворца? Як бы не так. Тыя, хто вырабляе тавары, атрымліваюць мізэр прыбытку. А тыя, хто потым працуе з гэтым таварам, атрымліваюць велізарную масу не зробленых імі грошай», — пазначыў ён курс, які мусіць пайсці барацьба з цэнамі.

Усё было б добра, калі б мы шматкроць не чулі раней загады аб замарожванні цэнаў. Напрыклад, 5 мая міністру працы і сацыяльнай абароны Марыяне Шчоткінай ён казаў, што, калі ў нас не хапае грошай на павышэнне заробкаў, то і кошты расці не павінны. А зараз, праз паўгода, дачакаўшыся пераабрання, Аляксандр Рыгоравіч фактычна прызнаў — схема не працуе.

Яна спрацавала адзін раз, напрыканцы 2014-га года, пад Новы год. Памятаеце загад кіраўніка: «Каб людзі годна адзначылі свята»? І да чаго гэта прывяло? Дэвальвацыю беларускага рубля на 30% канца 2014-га таксама памятаеце? А пытанні да намесніцы міністра гандлю Ірыны Наркевіч пра знікненне з крамаў памідораў? Калі яна казала: «Няма памідораў, ешце агуркі»?

Другая частка «авансавага пытання» — заробак. Праўда, наш правадыр пра яго выказаўся так, што становіцца млосна. «Такога ўзроўню зарплаты і грашовага забеспячэння, якія зараз ёсць у краіне, не павінна быць да канца будучага года. Гэта галоўная мэта нашай працы», — сказаў ён.

Большасць інфармацыйных рэсурсаў падалі гэтую фразу, як «Лукашэнка паабяцаў падвышэнне заробку». Насамрэч, слова «падвышэнне» сказана не было. Галоўнае, каб не было «такога ўзроўню». А яго, з нашай інфляцыяй, і не будзе.

На нарадзе зноў прагучала забарона скарачэння працоўных на дзяржпрадпрыемствах, хай яны і стратныя. «Людзей, якія хочуць працаваць, выкідваць на вуліцу ніхто не мае права. Атрымаеце за гэта крымінальную адказнасць», — папярэдзіў новаабраны кіраўнік. Таксама ён паабяцаў «параіцца з народам» наконт павышэння пенсійнага ўзросту, адразу ж дадаўшы, што «людзі гэтага не хочуць».

Дык якім жа чынам прапануецца спраўдзіць «крытычную масу чаканняў»? А па-ранейшаму, па-шарыкаўскаму: «Узяць усё і падзяліць». Найперш, Лукашэнка загадаў зноў «аптымізаваць» дзяржаўны бюракратычны апарат і «ўпарадкаваць залішнюю колькасць дзяржструктур». Але, па-першае, згодна з законамі Паркінсона, любое «скарачэнне і ўпарадкаванне» дзяржаўнай бюракратыі вядзе да павышэння (а не паніжэння) колькасці чыноўнікаў. Па-другое, як тады быць з загадам самога Лукашэнкі пра забарону скарачэння на дзяржпрадпрыемствах? Дзяржапарат — гэта ж таксама прадпрыемства.

Кіраўнік краіны запатрабаваў «зняць тлушч» з банкіраў. Маўляў, яны багатыя, і трацяць валюту на «непатрэбныя мерапрыемствы і цацанкі». Адразу бачна, што за гэтым сектарам Лукашэнка не сочыць, інакш ведаў бы: ніякага тлушчу ў нашых банкаў няма. Скура ды косці. Толькі ад пачатку гэтага года Нацбанк прыпыніў ліцэнзіі на правядзенне пэўных аперацый пяці банкаў: «БІТ-Банка», «ІнтэрПэйБанка», «Еўрабанка», банка «Гандлёвы капітал», «Н.Е.Б. банка». Яшчэ адзін банк — «Дэльта-банк», — збанкрутаваў. І Беларускі банк малога бізнесу літаральна днямі далучыўся да «Idea-банка». Такім чынам, фактычна з пачатку 2015 года краіна страціла сем банкаў. Ну, і хто тут кажа пра «банкірскі тлушч»?

Не кажучы ўжо пра тое, што падобнымі метадамі можна толькі зэканоміць пэўную частку грошай, але не вырашыць праблему.

А як жа вырашыць праблему? Аляксандр Рыгоравіч шчыра прызнаўся — не ведае. «Тыя, хто абіраў прэзідэнта, разлічваюць на павышэнне свайго жыццёвага ўзроўню. Я не кажу, якім чынам. Усе вы павінны даць людзям працу і спытаць за прадукцыйнасць працы», — запатрабаваў Лукашэнка.

То бок, «ідзіце і працуйце, я не ведаю, як і што, але каб да раніцы было». Альбо «капайце траншэю ад слупа і да абеду». Як можна выканаць такі загад? Нармальны чалавек скажа: «Ніяк».

І наўрад ці «павысіць жыццёвы ўзровень» атрымаецца коштам знешніх крэдытаў. На гэта грошай ужо ніхто не дае. Напрыклад, старшыня праўлення Еўразійскага банка развіцця Дзмітрый Панкін вызнаў, што самае цяжкае пытанне банка — гэта трохмільярдны крэдыт Беларусі. «У 2011–2013 гадах ім быў прадстаўлены першы крэдыт, таксама на $3 мільярды. Апошні транш — у $ 440 мільёнаў— не далі, бо не былі выкананыя ўмовы, якія Беларусь на сябе брала па гэтым крэдыце: уздым золатавалютных рэзерваў, давядзенне тарыфаў на ЖКГ і транспарт да самаакупнасці, скарачэнне дзяржаўнага крэдытавання эканомікі», — нагадаў Панкін.

Зараз, па ягоных словах, гаворка ідзе менавіта аб умовах, на якіх вылучаецца крэдыт: стабілізацыя макраэканомікі і сыход ад дзяржаўнага стымулявання эканомікі. «А вось гэтага яны не робяць. Як заўсёды, марнуюць на паляпшэнне дабрабыту жыцця працоўных, на стымуляванне росту ВУП», — растлумачыў Панкін.

Так што замежныя крэдыторы выдатна разабраліся ў «беларускім эканамічным цудзе». І, каб выканаць загады Лукашэнкі, застаецца толькі адно: як у мульціку пра Прастаквашына, «прадаць што-небудзь непатрэбнае». Але, паводле заўвагі ката Матроскіна з таго ж фільма, «каб прадаць што-небудзь непатрэбнае, трэба спачатку набыць што-небудзь непатрэбнае».

Цікава, у колькі Расія ацэніць непатрэбную нам авіяцыйную базу ў Беларусі?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Анатоль Лябедзька



**Лідар АГП 19 кастрычніка атрымаў на рукі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.**

У пратаколе, які складзены завочна без прысутнасці палітыка, сказана, што ён арганізаваў шэсце і мітынгі каля Ратушы і на плошчы Якуба Коласа. Пры гэтым арганізаваў рух і выкрыкваў: «Жыве Беларусь!».

«Гэта ўжо чацвёртая адміністрацыйная справа за тры тыдні і, думаю, што не апошняя», — сказаў палітык.

Акрамя таго, на мінулым тыдні Лябедзька знайшоў «жучок» ў сурвэтніцы кавярні «Салодкі фальварак». Пра гэта ён распавёў у фэйсбуку. «Дамовіліся аб сустрэчы з Уладзімірам Някляевым і Мікалаем Статкевічам. Па тэлефоне. «На старым месцы», без азначэння каардынатаў і назвы. Да сустрэчы прыйшоў за 10 хвілін», — піша Лябедзька. Як толькі палітык сеў за стол, «зазірнуў бармэн, і тут жа з'явілася афіцыянтка, узяла са стала сурвэтніцу і замяніла на іншую. Звярнуў увагу, што яны адрозніваюцца. Пачаў круціць у руках, і раптам ніжняя частка пайшла па нябачнай разьбе. А там… Падслухоўваючая прылада. Добры дзень, таварыш генерал».

Лябедзьку збянтэжыла тое, што падслухоўваючая прылада была зроблена на ўзроўні кітайскага дыктафона-аўтаручкі, і нават не прадугледжвала радыёперадачы размовы.

## Жак Фор



**Кіраўнік місіі назірання БДІПЧ АБСЕ распавёў, на чым будзе заснаваная негатыўная справаздача па выбарах прэзідэнта.**

Жак Фор упэўнены: Цэнтрвыбаркам мог бы правесці сумленны падлік галасоў. Аднак проста не жадае гэта рабіць.

Як адзначыў Фор, пры падліку галасоў назіральнікі павінны бачыць кожны бюлетэнь. «Калі я кажу «павінны бачыць», я маю на ўвазе фізічна кожны бюлетэнь, — падкрэсліў ён. — Затым копія пратакола падліку галасоў павінна быць неадкладна размешчана на дошцы з інфармацыяй на выбарчым участку. Назіральнікі павінны атрымаць завераную копію гэтага пратаколу. Затым вынікі з кожнага выбарчага ўчастку варта апублікаваць, напрыклад, на сайце Цэнтрвыбаркама. Такім чынам, у назіральнікаў, якія атрымалі пратакол, будзе магчымасць параўнаць апублікаваныя вынікі і пацвердзіць іх дакладнасць. Так павінна быць», — распавёў ён.

Па словах кіраўніка БДІПЧ АБСЕ, падчас цяперашніх прэзідэнцкіх выбараў «былі прыклады, калі на выбарчых участках падлік галасоў праводзіўся менавіта такім чынам». «Аднак ёсць супрацьлеглыя прыклады, і, на жаль, іх значна больш», — дадаў Фор.

Тыя нешматлікія пазітыўныя прыклады, калі назіральнікам дазволілі сачыць за падлікам галасоў, паказваюць, што «калі будзе палітычная воля, то Цэнтарвыбаркам можа стварыць абсалютна празрыстыя і зразумелыя правілы для камісій аб тым, каб дазволяць такое назіранне», — лічыць Фор.

## Ганна Бонд



**Тэлевядучая вырашыла прастымуляваць БАТЭ ў матчы з «Барселонай».**

Бонд заявіла на сваёй старонцы ў Facebook, што гатовая агаленай прабегчы па футбольным полі ў тым выпадку, калі барысаўсаўчане выйграюць.

Гэта, канешне, далёка не першы раз, калі тэлевядучыя абяцалі распранацца ў выпадку перамогі любімай каманды. Расіянка Ірына Шчадрына заявіла, што гатовая на такі крок, калі футбаліст «Зеніта» Аляксандр Бухараў заб'е пяць галоў да канца сезона. Нападаючы патрапіў у браму суперніка толькі адзін раз. А вось французскія футбалісты сваіх заўзятараў не падвялі, адолеўшы ў адборы на ЧС–2014 украінцаў. Гэта вымусіла стрымаць абяцанне французскую вядучую прагнозу надвор'я Дарыю Ціе.

БАТЭ прайграў «Барселоне» з лікам 0:2, чым выратаваў Ганну ад прастуды ці больш складанай хваробы, бо надвор'е зараз — не летняе.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Калі галоўнае не зарплата, дык што?

**Чарговая «элегантная перамога» ўпершыню была здабытая ва ўмовах падзення даходаў насельніцтва.**




Размаўляць з выпадковымі спадарожніцамі — мая слабасць. Прыклад такой слабасці быў прыведзены ў «Азбуцы паліталогіі» пад назвай «Рэванш правага паўшар'я». Гэтым разам мая спадарожніца ў хуткім цягніку «Мінск — Санкт-Пецярбург» — заслужаная настаўніца Расіі. Пасля абмену рытуальнымі прывітаннямі наша гутарка плаўна трансфармуецца ў інтэрв'ю: я задаю пытанні, спадарожніца адказвае.

Усе мы ва ўласных вачах маем добрую рэпутацыю, статус жа заслужанай настаўніцы робіць тэматыку маіх пытанняў практычна неабсяжнай. Натуральна, ад праблем канкрэтнай школы мы паднімаемся да ўзроўню арганізацыі сярэдняй адукацыі ў маштабах краіны. А дзе краіна — там і палітыка.

Мая спадарожніца ўзгадала прэзідэнцкія выбары 1996 года: «Я тады працавала ў выбарчай камісіі. На нас так ціснулі, так ціснулі! А куды падзенешся!»

### Эліта публічная і эліта сацыяльная

Канфармізм — змяненне ў паводзінах або меркаваннях чалавека пад уплывам рэальнага або ўяўнага ціску з боку іншага чалавека ці групы людзей. У штодзённай мове азначае прыстасаванства. У палітыцы канфармізм — сімвал згодніцтва і прымірэнства.

«Мы, людзі, — істоты сацыяльныя, мы схільныя да канфармізму.— Адзначае палітолаг Кацярына Шульман. — Звычайна за гэта не прынята ўхваляць: вось нейкія вы канфармісты, так? Замест таго, каб мець свой пункт гледжання і яго адстойваць. На самай справе, гэта нармальна, гэта сапраўды псіхічная норма. Мы, людзі, адаптуемся да той абстаноўкі, у якой мы знаходзімся, мы хочам быць упадабанымі і любімымі, а не наадварот, каб на нас сварыліся і падвяргаецца астракізму».

Даследаванні сацыяльных псіхолагаў сведчаць, што пры наяўнасці шэрагу ўмоваў, якія спрыяюць праявам падатлівасці, каля 65% дарослых людзей здольныя цалкам падпарадкоўвацца любым загадам. Прывяду адну з высноў, зробленых амерыканскім псіхолагам Стэнлі Мілграмам на падставе серыі эксперыментаў па канфармізму: «Калі б у ЗША была створана сістэма лагераў смерці па ўзоры нацысцкай Германіі, персанал для гэтых лагераў можна было б набраць у любым амерыканскім сярэдняга памеру горадзе».

Патрэбы ў масавым падборы падобнага кшталту персаналу ў рэспубліцы-партызанцы сёння няма. Але ці змог бы мудры беларускі народ зрабіць адзіна правільны выбар без дапамогі сябраў участковых выбарчых камісій, колькасць якіх складае каля 70 тысяч? Адназначнага адказу на гэта пытанне я не маю.

Прызнанне заслужанай настаўніцы Расіі ілюструе адзін з механізмаў узнаўлення культуры. У сацыялогіі прынята адрозніваць эліты публічныя і эліты сацыяльныя. Першы тып элітаў складаюць дзеячы ці групы, якія звяртаюцца да грамадства як да гледачоў і паслядоўнікаў. Гэта катэгорыя эліты дзейнічае пераважна праз СМІ.

Публічная эліта здольная дэкляраваць абагульненыя ўзоры паводзін, але ў яе функцыі не ўваходзіць перадача спецыяльных ведаў. Яна арыентуецца на «публіку», на неспецыялізаваную аўдыторыю.

Наадварот, сацыяльная эліта працуе са спецыялізаванымі аўдыторыямі (працоўныя і навучальныя калектывы), што дазваляе ёй перадаваць практычныя ўзоры паводзін з дапамогай прафесійных кантактаў.

### Вычарпанне ранейшага кантракта

Наступствы дзейнасці сацыяльнай эліты, якая ў сваім асабістым жыцці кіруецца прынцыпам: «А дзе падзецца! Нічога не паробіш!», фіксуюцца сёння ў Беларусі як на побытавым узроўні, так і пры правядзенні сацапытанняў.

Звернемся да практыкі, якая, як вядома, з'яўляецца крытэрам ісціны. У 1994 годзе ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў за квартэт прасавецкіх кандыдатаў (А. Дубко, В. Кебіч, А. Лукашэнка і У. Новікаў) прагаласавала 37% выбаршчыкаў ва ўзроставай групе ад 18 да 29 гадоў і 71% ва ўзроставай групе 60 гадоў і старэй. Здавалася б, такія суадносіны азначаюць, што час будзе працаваць супраць адзінага палітыка (АП). Але што мы маем па факце? А па факце мы маем адносна стабільную структуру беларускага электарату: 2001 г. — 30% vs. 81%, 2006 г. — 37% vs. 80% і 2010 г. — 31% vs. 73% (НІСЭПД).

За 2015 год дадзеных пакуль адсутнічаюць, але чакаць прынцыпова іншых суадносін не даводзіцца. Электаральная структура паспяхова ўзнаўляецца ва ўсіх узроставых групах. Так, узровень апазіцыйнасці сярод моладзі істотна вышэйшы, чым сярод пенсіянераў, але апазіцыйнасць адмаўляецца перадавацца, як эстафетная палачка, ад пакалення да пакалення.

Простыя схемы не працуюць, у тым ліку і схема, якая звязвае ўзровень падтрымкі АП з ростам рэальных даходаў насельніцтва. Гэта схема пацвярджалася сацыялагічнымі апытаннямі на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў. У яе верылі не толькі апаненты ўлады, але і сама ўлада. Як тут не працытаваць галоўнага персанажа маіх «азбук паліталогіі»: «Нельга не прызнаць справядлівасць ісціны аб тым, што маленькая зарплата здольная разбурыць нават самую моцную дзяржаву».

Добра сказана, пагадзіцеся. Але сказана ў маі 2001 года. А ў жніўні 2015-га, выступаючы перад працоўным калектывам ААТ «Мінскі завод колавых цягачоў», АП заявіў, што «не гэта сёння галоўнае». І, як паказалі далейшыя падзеі, ён мае рацыю.

Каб разабрацца, звярнуся па дапамогу да амерыканскіх псіхолагаў Лі Роса і Рычарда Нісбета, аўтараў кнігі «Чалавек і сітуацыя». Псіхолагі перакананыя, што цяжка, а часцей за ўсё немагчыма, прадказаць паводзіны чалавека ў канкрэтнай новай сітуацыі на падставе назіранняў за яго дзеяннямі ў іншых сітуацыях або на падставе ведаў пра рысы яго асобы.

Разгледзім праз прызму гэтай тэзы адмову АП ад выканання сацыяльных абавязацельстваў, прынятых на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе.

Шматгадовы вопыт правядзення незалежных сацыялагічных апытанняў адназначна сведчыць, што такая адмова павінна была прывесці да катастрафічнага падзення электаральнага рэйтынгу АП. Аднак напярэдадні галасавання было зафіксавана не падзенне, а рост рэйтынгу: чэрвень — 38,6%, верасень — 45,7%.

Чаму парушылася звыклая залежнасць паміж дынамікай даходаў насельніцтва і дынамікай рэйтынгу? Змянілася сітуацыя. Ранейшая характарызавалася сацыяльным кантрактам «Лаяльнасць у абмен на рост даходаў». Ён быў прапанаваны АП пасля перамогі на выбарах 1994 года, і насельніцтва з ім пагадзілася.

Стабільнасць, згодна з гэтым кантрактам, — гэта двухзначны рост даходаў. Да добрага чалавек прывыкае хутка, таму лакальныя зніжэнні тэмпаў росту даходаў з двухзначнага да адназначнага неадкладна прыводзілі да падзення рэйтынгу.

У чацвёртай пяцігодцы магчымасці беларускай мадэлі нарошчваць даходы насельніцтва былі цалкам вычарпаныя. Прыгадаем фінансавы крызіс 2011 года з яго трохразовай дэвальвацыяй «зайчыка» і верасьнёўскім абсалютным мінімумам электаральнага рэйтынгу АП — 20,5%.

Правядзенне чарговай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ва ўмовах ранейшага сацыяльнага кантракту пагражала вялікімі непрыемнасцямі. Але выхад падказала вайна ва Украіне.

### Зарплата тут ні пры чым

Пра ўвядзенне новага сацыяльнага кантракту «Лаяльнасць у абмен на выжыванне» АП абвясціў у сваім навагоднім звароце: «Упэўнены, кожны з нас жадае хутчэйшага аднаўлення міру на зямлі нашых братоў. Гэта шчырае, душэўнае пачуццё нашага народа. Мы, беларусы, жадаем міру ўсім нашым сябрам і суседзям. Мы робім і будзем рабіць усё, што ад нас залежыць, каб зберагчы яго і абараніць. Мір — гэта аснова жыцця і росквіту. І таму ў надыходзячым 2015 годзе перш за ўсё я жадаю ўсім нам міру — міру ў душы, міру ў сем'ях, міру ў краіне!»

Але сацыяльны кантракт — не пальчаткі, якія ўлада здольная мяняць у любы момант, кіруючыся пры гэтым выключна сваімі інтарэсамі. Чаму ж тады беларускае грамадства прагнулася пад новую сітуацыю?

Стандартнае тлумачэнне — нябачаная да таго актыўнасць прапаганды. Маўляў, перш чым у інфармацыйную апрацоўку насельніцтва ўключыліся айчынныя СМІ, яно ўжо было неаднаразова абстралянае з галоўных калібраў федэральных тэлеканалаў Расіі. Прычым сучасныя тэхналогіі дазвалялі весці прыцэльны агонь.

Вось як эфектыўнасць прапаганды тлумачыць палітолаг Уладзімір Пастухоў: «Уся тэхніка маніпуляцыі, якой бы разнастайнай і крэатыўнай яна ні здавалася, у канчатковым рахунку заснаваная на вызваленні архаічных сацыяльных інстынктаў, і перш за ўсё — на інстынкце самазахавання першабытнай супольнасці. Людзі ў хвіліну небяспекі гуртуюцца вакол правадыра, як зграя вакол важака».

Запярэчыць тут мне няма чаго, але можна дапоўніць.

Адмова АП выконваць ранейшы сацыяльны кантракт, безумоўна, сярэднестатыстычнага прадстаўніка беларускай «большасці» не парадавала. Але адна справа — «пакрыўдзіцца» ў адказ на часовае зніжэнне даходаў, і зусім іншае — адмовіцца у сваёй лаяльнасці рашуча і беспаваротна.

Такая адмова магчымая толькі пры наяўнасці альтэрнатывы. Гаворка ідзе не пра персанальную альтэрнатыву. Тут тонкі момант. Паспрабую патлумачыць яго з дапамогай культуролага Ігара Якавенкі: «Чалавек пачынае бунтаваць не тады, калі яму чагосьці не хапае, а калі руйнуецца карціна свету і перажываецца спецыфічны стан касмічнага сіроцтва».

З такімі перажываннямі і сутыкнуўся тыповы прадстаўнік беларускай «большасці» пасля распаду СССР. Рынак з яго канкурэнцыяй пагражаў разбурыць звыклую карціну свету, сфармаваную пад дахам патэрналісцкай дзяржавы савецкага ўзору. Таму на першых прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, як і на ўсіх наступных, на коне стаялі не персоны, а права «большасці» на захаванне ранейшай карціны свету.

Сацыяльныя канфлікты не зводзяцца да матэрыяльных фактараў. Чалавек савецкі і постсавецкі можа вытрываць практычна любыя формы і ўзроўні сацыяльнага прыгнёту. І таму бессэнсоўна адсочваць дынаміку сярэдняй зарплаты ў доларавым эквіваленце, пакуль дзяржава здольная хоць бы ў мінімальнай ступені абараняць чалавека дарынкавай культуры ад стыхіі рынку.

# ІТ-бізнес губіць зайздрасць прамыслоўцаў

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ




**Яшчэ зусім нядаўна бізнесмены, што працуюць у ІТ-сферы, маглі лічыць сябе сапраўднай беларускай элітай. Пабудаваўшы свой бізнес без выкарыстання бюджэтных або пазыковых сродкаў, коштам уласных мазгоў, яны апынуліся выключна паспяховымі нават у крызіс, калі ляглі прамысловыя гіганты. Але ў 2015 годзе ўсё змянілася. Сёння сітуацыя выглядае так, нібы дзяржава вырашыла прырэзаць курыцу, якая нясе ёй залатыя яйкі. Што ж насамрэч адбываецца?**

### Падатковы напад

Прафесія праграміста і сёння застаецца самой высокааплатнай у краіне. А ўладальнікі софтверных фірмаў, засяроджаных у ПВТ, наогул маглі сябе лічыць каралямі беларускага бізнесу. Але салодкае жыццё скончылася.

Яшчэ 18 лютага стала вядома, што Міністэрства фінансаў падрыхтавала праект дэкрэту прэзідэнта, які прадугледжваў падвышэнне для працаўнікоў кампаній-рэзідэнтаў Парка высокіх тэхналогій стаўкі падаходнага падатку з 9% да 10% (іншыя грамадзяне Беларусі плацяць 13%). Таксама ў тры разы павінна была вырасці база для налічэння абавязковых страхавых унёскаў (базай для разліку выплаты падатку павінна была стаць не адна сярэдняя зарплата, а дзве).

Мэты, вядома, былі названыя самыя прыгожыя: «удасканаленне заканадаўства аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні, умацненне сацыяльных гарантый працаўнікоў рэзідэнтаў ПВТ і выраўноўванне ўмоў падаткаабкладання прыбыткаў фізасоб». На самай жа справе ўсё выглядала так, што ўрад дзейнічае па прынцыпе: «Мы ўсё разумеем, але вельмі грошы патрэбныя».

Аднак у ІТ-кампаніях хутка падлічылі, што тады выдаткі ў разліку на аднаго працаўніка ўзрастуць прыкладна на 5 мільёнаў рублёў. Гэта азначае, што эфектыўнасць працы з замежнымі заказчыкамі рэзка знізіцца. Беларускія фірмы апынуцца неканкурэнтаздольнымі на рынках Заходняй Еўропы і ЗША, а таксама Расіі. Бо з-за падзення курсу расійскага рубля значна патаннелі паслугі расійскіх распрацоўчыкаў праграмнага забеспячэння — і беларусы ўжо не змогуць з імі канкураваць.

«Ва ўсіх быў лёгкі шок, і ён зразумелы, бо выдаткі па вядзенні гэтага бізнесу ў сярэднім узрастуць на 15%, што азначае страту для шматлікіх кампаній, маржа якіх цяпер вагаецца ў межах 10%», — казалі тады шматлікія кіраўнікі кампаній-рэзідэнтаў ПВТ.

Наўпрост зрэзаць зарплаты праграмістам не атрымаецца — тады яны з'едуць з краіны. Бо гэта ў большасці сваёй маладыя адмыслоўцы, мабільныя, з веданнем моваў і гатовыя да пераезду. А калі падвысіць кошты на паслугі беларускіх фірмаў — галіна пазбавіцца часткі заказчыкаў.

У выніку ў прафесійнай супольнасці былі агучаныя такія лічбы: страты беларускага экспарту ІТ-паслуг могуць скласці ад $200 мільёнаў у 2015 годзе да $350 мільёнаў у 2016-м. Да таго ж большасць ІТ-кампаній зоймецца аптымізацыяй падаткаў: супрацоўнікаў будуць рэгістраваць у якасці ІП, і тады адлічэнні ў ФСЗН будуць ісці не з сярэдняй зарплаты, як цяпер, або двухразовай (як прапаноўвае Мінфін), а з адной «мінімалкі». І гэта ў лепшым выпадку. У горшым — кампаніі проста перанясуць свой бізнес за межы Беларусі.

Увогуле, рэакцыя ІТ-бізнесу на ініцыятыву Мінфіна апынулася настолькі рэзкай, што ва ўрадзе былі змушаныя адыграць назад. Але так здаецца толькі на першы погляд. Насамрэч атрымалася нешта накшталт:

— Мы падвысім падатак на 1% і базу для выплаты падатку павялічым у ТРЫ разы!

— Ратуйце, рабуюць!

— Добра, мы адкладзем павелічэнне падатку на 1% на год, бо на гэты год ужо ўсё звярстана, а базу для выплаты падатку павялічым у ДВА разы!

— Дзякуй, якое шчасце! Як нам пашанцавала!

### Хто тут пакрыўджаны?

Паўстала заканамернае пытанне: чаму наогул гэта адбылося? Чаму ўрад раптам наехаў на любімчыкаў кіраўніка краіны — кампаніі Парка высокіх тэхналогій? Мае крыніцы ва ўрадзе падказалі, дзе трэба шукаць. Пытанні і адказы прывялі да прамысловага лобі — да чальцоў Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Некалькі гутарак «не пад дыктафон» шмат што расставілі па сваіх месцах.

Як аказалася, дзесяцігадовая паспяховая дзейнасць ПВТ выклікала проста зайздрасць у беларускіх прамыслоўцаў. Галоўны лейтматыў: дайце нам такія ж падатковыя ды іншыя палёгкі, як і ІТ-кампаніям, так мы таксама вынік пакажам! Зрэшты, не меншым апынуўся і фактар свайго роду рэўнасці: на самай справе, кожны раз, наведваючы ПВТ, Лукашэнка хваліў яго насельнікаў, а наведваючы заводы — лаяў.

Пры гэтым так склалася, што чыноўнікі ўрада — гэта такія людзі, якія сутнасць ІТ-бізнесу разумеюць дрэнна. Затое патрэбы ды праблемы прамысловых прадпрыемстваў разумеюць вельмі нават добра. Менавіта дзякуючы гэтаму прамыслоўцы і змаглі падкласці свінню айцішнікам.

Пра тое, што прамыслоўцы вельмі нервова ставяцца да асаблівага становішча айцішнікаў у краіне, «Новаму Часу» распавёў і самы вядомы ІТ-бізнесмен Беларусі, стваральнік партала TUT.by Юры Зісер:

— Я ў сваёй практыцы часта заўважаў рэўнасць прамыслоўцаў — прадстаўнікоў традыцыйных галін прамысловасці — да айцішнікаў — насельнікаў ПВТ. У асноўным, вядома, з-за падатковых палёгкаў ды іншага. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць у Facebook каментары да любой навіны аб ПВТ, якую я публікую.

Акрамя падаткаў ёсць і іншыя нагоды для рэўнасці. ІТ-галіна не зарэгуляваная, і ў ёй няма канкурэнцыі з дзяржпрадпрыемствамі. Фактычна для ІТ-кампаній створаныя цяплічныя ўмовы. У ліку прэтэнзій — і тое, што праграмісты ў ПВТ нічога не вырабляюць для краіны, толькі плодзяць сацыяльную няроўнасць, скажаюць рэальную карціну па зарплаце ў краіне.

**Рэакцыя ІТ-бізнесу на ініцыятыву Мінфіна апынулася настолькі рэзкай і нервовай, што ва ўрадзе былі змушаныя адыграць назад. Але так здаецца толькі на першы погляд**

Між тым, канфлікт усё ж такі дайшоў да верху: 6 жніўня, падчас інтэрв'ю некальскім недзяржаўным СМІ, Лукашэнка заявіў, што не лічыць, што айцішнікі ў Беларусі пакрыўджаныя: «Гэта я стварыў для іх кластар — Парк высокіх тэхналогій, каб забяспечыць гэтых яйцагаловых працай, каб яны нікуды не збеглі. Яны не плацяць ніякія падаткі. Што замінае працаваць? Бедныя айцішнікі нашы! Пераважная большасць — 99,9% — з задавальненнем працуе і мне ніякіх прэтэнзій не прад'яўляе. А я працягваю развіваць гэты Парк нават у гэты складаны час».

Тут для паўнаты карціны важна ўдакладніць, што беларускія ІТ-кампаніі засяроджаныя ў двух асноўных групах. Першая — гэта ПВТ, у які ўвайшлі амаль толькі тыя кампаніі, якія працуюць з замежнымі заказчыкамі. Гэта EPAM Systems, EffectiveSoft, BelHard Development, IHS Global і дзясяткі іншых. Другая група прадпрыемстваў — тыя, што ўваходзяць у асацыяцыю «Інфапарк» і ў асноўным працуюць на ўнутраным рынку. Сюды адносяцца як прыватныя кампаніі («Топ Софт», «Максіпрософт», «1С-Менск»), так і дзяржаўныя прадпрыемствы («Агат — сістэмы кіравання», «Інстытут матэматыкі НАН Беларусі», НДІЭВМ). Яны таксама маюць розныя роду палёгкі і прэферэнцыі, але зусім іншага плану, не такія, як рэзідэнты ПВТ.

І, як высветлілася, кампаніі, якія працуюць на ўнутраны рынак, таксама вельмі нядобра ставяцца да сваіх жа калегаў, што працуюць «на экспарт». Вось толькі некалькі выказванняў, якія мне давялося пачуць:

— А што? 10 гадоў мелі палёгку па ФСЗН, час наспеў мець сумленне. Нікуды праграмеры не дзенуцца. Будуць працаваць як міленькія. Таму што Нямеччыну даўно акупавалі палякі-вугорцы-румыны і г.д., якіх паболей, чым беларусаў, і мазгі не горшыя.

— А з якой нагоды наогул у іх такія палёгкі ёсць? Была дармаўшчына, скончылася дармаўшчына. Тым больш, што зарабляюць яны і так прыстойна. Гэта не настаўнікам у школе араць. Не пакруць, усё нармалёва будзе.

Вось такая карпаратыўная салідарнасць.

## Каментар эксперта

**Праблемы ІТ-кампаній каментуе генеральны дырэктар буйной беларускай ІТ-кампаніі «Белхард» Ігар Мамоненка:**




Фота www.x-hw.by

*— У Беларусі ІТ-бізнес мае самы высокі дабаўлены кошт. Напрыклад, 60% экспарту Беларусі ў Амерыку складаюць прадукты і паслугі ІТ-сектара. Гэта значыць калі нашы трактары ў ЗША будуць пастаўляць — ніхто не ведае, а вось софт мы ўжо прадаем, і прадаем паспяхова. Фактычна ўсе нашы галіны вытворчасці ў гэты крызіс ляглі. Глядзіце: МАЗ — не ў лепшым стане, трактарны — не ў лепшым стане, як і БелАЗ. Калійныя ўгнаенні таксама цяпер каштуюць не столькі, колькі хацелася б, нафта таксама прасела. А вось ІТ-сектар расце.*

*Але ў айцішнікаў шмат нядобразычліўцаў. Калі зарплата праграміста ў дзесяць разоў перавышае зарплату настаўніка або лекара, то грамадская думка лічыць, што гэта несправядліва. І хай праграміст падзеліцца сваёй зарплатай.*

*Улада з падазронасцю глядзіць на бізнес, асабліва на той, які ніяк не звязаны з бюджэтам, гэта значыць незалежны бізнес. Незалежныя людзі, якія зарабляюць досыць вялікія грошы, могуць быць небяспечныя. А раптам яны пачнуць фінансаваць апазіцыю? А раптам яны самі пойдуць у палітыку? І ў нас такога роду бізнес ужо паўстаў — гэта якраз ІТ-бізнес. У выніку Віктар Пракапеня стаў казлом адпушчэння. Уладзе трэба было абраць кагосьці, каго ўзорна пакараць, каб усім астатнім было непанадна.*

# Паслядоўніца Адамовіча і Быкава



Сяргей ШАПРАН

**Заканчэнне. Пачатак у №39**

## Навука трымаць удары

Падтрымку старэйшых пісьменнікаў яна адчувала і доўгі час пасля. А калі дакладней, дык размова ідзе ўжо пра заступніцтва.

Так, у 1990 годзе, пасля з'яўлення ў самым, мусіць, рэакцыйным на той час часопісе «Политический собеседник» артыкула В. Юдзіна «Пафас безгрунтоўнага адмаўлення» — крытычнага разбору аповесці «Цинковые мальчики» С. Алексіевіч, «ЛіМ» надрукаваў адказ «Зноў гучыць баявая труба». Пад ім значыліся прозвішчы Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і Міхася Тычыны. Прывядзём тут толькі некаторыя фрагменты: «Артыкул В. Юдзіна, як пракурорская прамова з выразным абвінаваўчым ухілам, літаральна нашпігавана апрабаванымі ў добра памятныя часы рытарычнымі прыёмамі і фігурамі.

Усё тое ж сумна вядомае прыпісванне аўтару думак яе герояў-«афганцаў»: «Рукой-то наших «цинковых мальчиков» водит автор. И не просто «водит», скрупулезно регистрируя «случаи» из жизни, а задает им определенную концепцию».

Усё тыя ж перанесеныя ў наш час з суслаўскай эпохі папрокі ў нежаданні адрозніваць «правду отдельного факта и большую правду искусства»...

Усё той жа намер зваліць адказнасць за гэту ганебную акцыю на мёртвых дзеячаў «Мадрыдскага двара» і абараніць Сістэму, якая трымаецца на дзіўным кангламераце партыйнай бюракратыі з ваенна-прамысловым комплексам.

Усё тое ж нацкоўванне на пісьменнікаў простага люду («отцы нам не лгали») і імкненне выкарыстаць у гэтых мэтах «афганцаў», скіраваўшы зразумелую іх прагу дзейнасці на пошукі новых «ворагаў», разварушваючы ў іх душах нізкія псеўдапатрыятычныя страсці («будто и не солдаты вовсе, а насильно оторванные от груди матери сосунки»)...

І зноў са старонак «ПС», як ужо было не раз за гэтыя гады, гучыць баявая труба абаронцаў «імперскіх амбіцый», якія заклікаюць пад свае сцягі «сапраўдных патрыётаў», «верных сыноў Айчыны», «воінаў-інтэрнацыяналістаў»...»

А ў 1993 годзе, калі Алексіевіч ганебна судзілі за кнігу «Цинковые мальчики», у адрас суда быў накіраваны ліст за подпісамі пісьменнікаў-удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны Міколы Аўрамчыка, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Аляксандра Дракахруста, Навума Кісліка, Валянціна Тараса. Яны пісалі: «Ці можна замахвацца на правы пісьменніка казаць праўду, якой бы трагічнай і жорсткай яна ні была? Ці можна ставіць яму ў віну неабвержныя сведчанні аб злачынствах мінулага і, у прыватнасці, аб злачынствах, звязаных з ганебнай афганскай авантурай, якая каштавала стольких ахвяр, сапсавала столькі лёсаў...

Паважаючы асабістую мужнасць салдат і афіцэраў, дасланых брэжнеўскім кіраўніцтвам КПСС змагацца ў чужую, да гэтага дружалюбную краіну, шчыра падзяляючы смутак маці, чые сыны загінулі ў афганскіх гарах, пісьменніца разам з тым бескампрамісна выкрывае ў гэтай кнізе ўсе спробы гераізаваць ганебную афганскую вайну, спробы рамантызаваць яе, развенчвае хлуслівую патэтыку і траскучы пафас.

Мабыць, гэта прыйшлося не па душы тым, хто і дагэтуль перакананы, што афганская і іншыя авантуры адышоўшага ў мінулае рэжыму, якія былі аплачаны крывёю нашых салдат, былі выкананнем «свяшчэннага інтэрнацыянальнага доўгу», хто хацеў бы абяліць чорныя справы палітыкаў і чарнобыльцаў-ваеначальнікаў, хто хацеў бы паставіць знак роўнасці паміж удзелам у Вялікай Айчыннай вайне і ў несправядлівай, па сутнасці, каланіяльнай, афганскай.

Гэтыя людзі не ўступаюць у палеміку з пісьменніцай. Не аспрэчваюць яе ўзрушаючых фактаў. І наогул не паказваюць свайго твару. Рукамі іншых, якія ўсё яшчэ памыляюцца або ўведзены ў зман, яны ўзбуджаюць (праз гады пасля газетных публікацый і выхаду ў свет кнігі «Цинковые мальчики»!) судовую справу аб «абразе гонару і годнасці» воінаў-афганцаў, тых хлопчыкаў, пра якіх з такім разуменнем, спачуваннем і спагадай, з такім сардэчным болем напісала Святлана Алексіевіч.

**Я часам думаю: якое гэта было дзіўнае пакаленне і як мне пашанцавала, што я сустрэла такіх людзей, настаўнікаў — Адамовіча і Быкава!**

Так, яна не малявала іх рамантычнымі героямі. Але толькі таму, што цвёрда кіравалася талстоўскім запаветам: «Герой... якога я люблю ўсімі сіламі душы... быў, ёсць і будзе — праўда».

Дык ці можна абразіць за праўду? Ці можна яе судзіць?»

Пазней Васіль Быкаў яшчэ раз вярнуўся да гэтай ганебнай старонкі беларускай найноўшай гісторыі — на наступны год ён выступіў у «Литературной газете» з вялікім артыкулам «Афганская карта: як яе выкарыстоўваюць нацыянал-камуністычныя колы Беларусі», значная частка якога была прысвечана аўтару «Цинковых мальчиков»: «Увесь мінулы год грамадскасць Беларусі сачыла за вялацякучым працэсам пісьменніцы Святланы Алексіевіч... У прамежках паміж судовымі пасяджэннямі беларуская ваеншчына, асабліва адстаўная, на мітынгах і незлічоных сходах (у тым ліку кампартыйных) накачвала сярод удзельнікаў пачуцці абражанага гонару і папранай годнасці афганцаў, якія да канца выканалі свой патрыятычны і інтэрнацыянальны абавязак. Забітая горам маці, якая страціла ў Афганістане сына, раптам загарэлася святым гневам супраць аўтара «Цинковых мальчиков», нібы сама С. Алексіевіч пазбавіла жыцця яе любімае дзіця. Замест таго каб прад'явіць цалкам законны і па-чалавечы апраўданы пазоў да тагачаснага (або цяперашняга) дзяржаўнага і партыйнага кіраўніцтва, Міністэрства абароны, што паслалі яе сына паміраць у чужым далёкім Афганістане, яна звярнула свой гнеў супраць пісьменніцы, якая асмелілася напісаць пра тое праўду. Здзіўленне ўсіх, хто ведае гэтую гісторыю, выклікала тая акалічнасць, што ўсяго некалькі гадоў таму пазоўца выказала цалкам станоўчае і добразычлівае стаўленне да публікацыі. Пра гэта падчас суду нагадала С. Алексіевіч. Але суд яе словам не паверыў, апрыёры паверыўшы ў ісціну пацярпелага боку...

Дык што ж адбылося за некалькі гадоў з забітай горам маці? Што выклікала яе такі запознены выбух гневу, адрасаваны зусім не па тым адрасе, па якім яго трэба было б адрасаваць? Што здарылася таксама з «Комсомольской правдой», якая ў свой час з'явілася ініцыятарам злашчаснай публікацыі з «Цинковых мальчиков», а цяпер надрукавала здзеклівы па тону артыкул пад малапісьменным загалоўкам «Хлопчыкі — «цынкавыя». Пісьменнікі — усё «жалезней»?» Выпадак, трэба заўважыць, вельмі рэдкі нават у вядомай сваёй рэптыльнасцю савецкай журналістыцы, калі друкаваны орган не толькі не спрабуе апраўдаць уласную публікацыю, але маральна выкрывае ўласнага аўтара...»



Фота Сяргея Шапрана

Каментуючы гэтыя даўнія публікацыі, Святлана Алексіевіч гаварыла: «Быкаў і Адамовіч зноў тады забяспечылі мне вялікую падтрымку. Тым больш, калі табе тэлефануюць невядомыя і распавядаюць, дзе ты сёння была, як была апранутая... адным словам, усяляк запалохвалі. І некаторыя мае калегі нават прапаноўвалі ўсталяваць дзяжурства каля мяне. Але гэта было смешна — забіць чалавека проста. Таму трэба было быць абсалютным фаталістам. Гэтаму, дарэчы, я таксама навучылася ў Быкава і Адамовіча — навучылася прымаць удары. Проста трэба ўмець спакойна рабіць сваю працу, трэба ўмець не мітусіцца. Гэта галоўнае».

## Канец і працяг эпохі

Калі Быкава не стала, я патэлефанаваў Святлане Аляксандраўне з просьбай пагаварыць пра яе настаўніка. Яна ахвотна пагадзілася. Мы доўга гутарылі тады, вось, мусіць, самая квінтэсэнцыя той размовы: «Памёр ён як годны чалавек — паводле сваіх перакананняў і светапогляду. Яны абодва з Адамовічам сышлі паводле сваіх перакананняў. Але з іншага боку, тое, што адбывалася ў апошнія гады ў Беларусі, пакідала Быкава ў разгубленасці. Бо краіна быццам бы і ягоная, а быццам бы і чужая... Аднак нават у самыя цяжкія часы ён ніколі не рабіў уражання зламанага чалавека. Ва ўсялякім выпадку я запомніла яго як чалавека гонару. Я ж бачыла і іншых вялікіх пісьменнікаў, якія або прытанцоўвалі пад той час, у якім жылі, або папросту змоўклі. Быкаў жа — не, ён заставаўся роўны самому сабе...

Я часам нават думаю: якое гэта было дзіўнае пакаленне і як мне пашанцавала, што я сустрэла такіх людзей, настаўнікаў — Адамовіча і Быкава! І што яшчэ важна: абодва яны былі проста вельмі добрымі людзьмі, па-чалавечы добрымі. Гэта былі вельмі шчырыя людзі. Калі яны нешта казалі, ты ведаў: яны кажуць праўду. Па-другое, яны па-чалавечы вельмі сумленна пражылі...

Хоць можна толькі дзівіцца таму, як Быкаў, як яго пакаленне вытрымала такі напал, як ён да апошняга не здаў сваіх пазіцый. На мой погляд, у нас гэта быў самы бескампрамісны мастак свайго часу. Гэта быў вялікі чалавек нашага часу. І самае галоўнае — вельмі сумленны. Разам з Адамовічам і Астаф'евым ён належаў да таго пакалення, для якога такія паняцці, як сумленнасць і маральнасць, не былі вопраткай, якую ў адным выпадку можна зняць, у іншым — апрануць. Гэтыя пісьменнікі яшчэ бясспрэчна працягвалі традыцыю рускай літаратуры: калі ты мастак, і мастак народны, у такім выпадку тое, што кажаш і пішаш, павінна быць безумоўна сумленным, абавязана быць забяспечана тваімі ўласнымі чалавечымі якасцямі».

Вядома, немагчыма не пагадзіцца з гэтымі разважаннямі Святланы Алексіевіч. Пярэчанне выклікае толькі такая яе выснова: «Смерць Васіля Быкава стала завяршэннем эпохі не ў адной толькі Беларусі — яна ў прынцыпе закрыла эпоху ўяўленняў пра служэнне мастака грамадству і ўяўленняў аб месцы чалавека ў гэтым жыцці, якія існавалі раней. Са смерцю Быкава эпоха ранейшага светапогляду скончылася». Вось тут якраз можна паспрачацца, бо міжволі ўзнікае пытанне: а ці не ёсць сама Алексіевіч прадстаўніком той эпохі, пра якую кажа? А калі так, дык, мусіць, заўчасна гаварыць пра смерць гэтай самай эпохі?

Зрэшты, гэта не так ужо істотна. Больш важнае іншае: ёсць Святлана Алексіевіч і яе кнігі, і ёсць яе Нобель, першы беларускі Нобель. І тое, і другое цяпер ужо неаспрэчны факт беларускай гісторыі. І той рэдкі выпадак, калі імя пісьменніка належыць Вечнасці яшчэ пры ягоным жыцці.

TV

## 26 КАСТРЫЧНІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**11.40** Меладрама «Родны чалавек».
**13.40** Меладрама «Выпрабаванне вернасцю».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.00** 90 секунд.
**15.55** Меладрама «Выпрабаванне вернасцю».
**17.40** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.35** Навіны.
**23.55** Дзень спорту.
**00.05** Меладрама «Родны чалавек».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**18.55** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Фільм «Малавіта».
**00.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.00** Такі лёс.
**10.50** Вялікі горад.
**11.30** «24 гадзіны».
**11.50** Дакументальны праект.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ідэальны шторм».
**16.10** «Далёкія сваякі».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** «Зялёны агурок».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**20.55** «СТБ спорт».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Кабеі».
**01.45** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.45** Серыял «Сябры анёлаў».
**12.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.20** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**15.15** Камедыя «Голая праўда».
**17.00** Перазарузка.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.35** КЕНА.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.05** Рэпарцёр.
**23.50** Трылер «Прывіды».
**00.50** Камедыйнае фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Мяне гэта не датычыцца». Сацыяльная драма (Расія, 2013 г.).
**08.55** Хіт-парад «Сто песен для Беларусі».
**09.50** «Наперад у мінулае».
**10.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**10.50** «Музеі Беларусі». Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей.
**11.20** « Гэты дзіўны свет…» Чэслаў Немен.
**11.55** «Марыя, Мірабэла». Музычны мультфільм.
**13.00** «Лэдзі Караліна Лэм». Гістарычная драма (Вялікабрытанія, Італія, 1972 г.).
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Дээерцір». Ваенная драма (Расія, Балгарыя, Малдова, 1997 г.).
**16.20** «Справы фамільныя». Салодкая рэвалюцыя.
**16.45** «Застаюся з вамі». Біяграфічная драма (СССР, 1981 г.).
**17.55** «Маска - Мінск. Кінатранзіт». Фільм першы «Ларыса Шапіцька «Узыходжанне».
**18.20** «Узыходжанне». Ваенная драма (СССР, 1976 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Трывогі першых птушак». Ваенная драма (СССР, 1985 г.).
**23.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.25** «Калейдаскоп».
**23.40** «Геапалітыка: свет за тыдзень».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Хакей. КХЛ. Сочы - Дынама.
**09.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Ліверпуль - Саўтгэмптан.
**11.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Юнайтэд - Манчэстэр Сіці.
**13.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**14.55** Футбол. Дынама - Славія.
**16.50** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**18.25** Час футболу.
**19.20** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. КХЛ. Дынама - Слован.
**21.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.40** PRO спорт. Навіны.
**23.10** Футбол. Дынама - Славія.
**23.55** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.35** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.15** Форум (ток-шоу): Карупцыя назаўсёды!
**08.55** Два на два (тэледыскусія): Іван Шыла і Мікалай Дземідзенка: Актывізацыя «Маладога фронту».
**09.30** Апошнія сакрэты Трэцяга Райху, дак. серыял: Архітэктар Гітлера.
**10.20** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лаўрышаўскага манастыра.
**10.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.05** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.40** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**12.15** Невядомая Беларусь: Кантрабандысты, д/ф.
**12.50** Новая Зямля: Архіпелаг страху, д/ф.
**13.45** Дама з камеліямі, меладрама.
**15.30** Сведкі: Тутэйшыя.
**15.45** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**16.35** Пад каўпаком, д/ф.
**17.50** Мова нанова: Грошы.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.45** Форум (ток-шоу): Карупцыя назаўсёды!
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**22.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.30** Кінаклуб: «Багі і пачвары».
**22.40** Багі і пачвары, м/ф.
**00.25** Студыя «Белсат».

## 27 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Каханне - не бульба».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Думай, як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Шпіёнскі серыял «Чужы твар».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**21.00** Панарама.
**21.45** Буйным планам.
**22.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.05** Навіны.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Таты дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Павук».
**23.00** Камедыя «Лэдзі Поспех».
**01.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Няўдачлівыя».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Тэрыторыя памылак.
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**01.20** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**11.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.00** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**12.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.50** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.45** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Пульс.
**18.15** Адзін дзень з жыцця...
**18.35** Усёзнайка.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**22.05** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.05** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**23.55** Камедыйнае фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Тры вясёлыя змены». Прыгодніцкі фільм. 1-я серыя (СССР, 1977 г.).
**09.05** Прэм'ера. «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Тры вясёлыя змены».
**09.35** «Чорная магія, ці Спаткanne з д'яблам». Містычная драма (СССР, 1990 г.).



**11.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Зінаіды Браварскай.
**11.40** «Калейдаскоп».
**11.50** «Кароль Драздабарод». Фільм-казка (ГДР, 1965 г.).
**12.55** Мультфільмы.
**13.35** «Наш чалавек у Гаване». Крымінальная камедыя (Вялікабрытанія, 1959 г.).



**15.20** «Калейдаскоп».
**15.30** «Трывогі першых птушак». Ваенная драма (СССР, 1985 г.).
**17.00** Прэм'ера. «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Тры вясёлыя змены».
**17.25** «Тры вясёлыя змены». Прыгодніцкі фільм. 1-я серыя (СССР, 1977 г.).
**18.30** «Калейдаскоп».
**18.45** «Пастка для адзінокага мужчыны». Крымінальная камедыя (СССР, 1990 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Лёс гігантаў». «Ікарус».
**21.30** «Царэвіч Аляксей». Гістарычная драма (Расія, 1997 г.).
**23.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Зінаіды Браварскай.
**00.05** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Вынікі.
**07.30** Футбол. Шахцёр - Віцебск.
**09.20** Час футболу.
**10.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**12.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Сандэрлэнд - Ньюкасл.
**14.00** Сучаснае пяцібор'е. Кубак свету.
**14.30** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**16.30** Хакей. КХЛ. Дынама - Слован.
**18.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**19.20** PRO спорт. Навіны.
**19.30** Спорт -кадр.
**20.00** Змешаныя адзінаборствa.
**22.35** PRO спорт. Навіны.
**22.45** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**00.50** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Форум: Карупцыя назаўсёды!
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Асабісты капітал.
**10.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Скрадзеныя вочы, гіст. драма.
**12.45** Студыя «Белсат».
**13.00** Форум: Карупцыя назаўсёды!
**13.40** Студыя «Белсат».
**15.55** Асабісты капітал.
**16.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.40** Ратаўнікі, серыял.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**22.10** Абед, рэпартаж.
**22.30** Пад каўпаком, д/ф.
**23.45** Апошнія сакрэты Трэцяга Райху, дак. серыял: Архітэктар Гітлера.
**00.40** Студыя «Белсат».

TV

## 28 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Каханне - не бульба».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Думай, як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі».
**16.30** Шпіёнскі серыял «Чужы твар».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Павук».
**23.00** Камедыя «Дрэнная медыцына».



**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Груз».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Апошняе каханне на Зямлі».
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**01.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**11.10** Вось дык так!
**12.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.00** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.25** Тэлебарометр.
**22.50** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.55** Панаехалі.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.05** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Тры вясёлыя змены». Прыгодніцкі фільм. 2-я серыя (СССР, 1977 г.).
**09.05** Мультфільмы.
**09.40** «Наш чалавек у Гаване». Крымінальная камедыя (Вялікабрытанія, 1959 г.).
**11.25** «Калейдаскоп».
**11.40** «Пастка для адзінокага мужчыны». Крымінальная камедыя (СССР, 1990 г.).
**13.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра і рэжысёра Дзмітрыя Арлова.
**13.35** «Царэвіч Аляксей». Гістарычная драма (Расія, 1997 г.).
**15.20** «Калейдаскоп».
**15.35** «Кароль Драздабарод». Фільм-казка (ГДР, 1965 г.).
**16.40** Мультфільмы.
**17.10** «Тры вясёлыя змены». Прыгодніцкі фільм. 2-я серыя (СССР, 1977 г.).
**18.15** «Калейдаскоп».
**18.30** «За што?» Гістарычная драма (Расія-Польшча, 1995 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Лёс гігантаў». «Трабант».
**21.30** «Асенні марафон». Трагікамедыя (СССР, 1979 г.).
**22.55** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра і рэжысёра Дзмітрыя Арлова.
**23.50** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Спорт-кадр.
**07.35** Козел пра футбол.
**07.55** Баскетбол. НБА. Чыкага - Кліўленд.
**09.35** Сучаснае пяцібор'е. Кубак свету.
**10.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**12.00** Плаванне. Кубак свету. Токіо.
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА.
**16.30** Баскетбол. НБА. Голдэн Стэйт - Нью Арлеан.
**18.10** Козел пра футбол.
**18.25** Футбол. На шляху да ЧС-2018.
**18.55** PRO спорт. Навіны.
**19.00** Авертайм КХЛ.
**21.50** Гандбол. Вардар - БГК імя Мяшкова.
**23.20** PRO спорт. Навіны.
**23.30** Тэніс. Турнір ВТА. Кубак Крамля.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**10.40** Абед, рэпартаж.
**11.00** Рэлігійныя турмы, д/ф.
**11.35** Беларусы ў Польшчы.
**11.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.20** Мова нанова: Грошы.
**12.40** Студыя «Белсат».
**13.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.40** Студыя «Белсат».
**15.50** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**16.25** Абед, рэпартаж.
**16.40** Пад каўпаком, д/ф.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Расціслаў Смаленскі.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Трэці сектар: прагрэс, рэгрэс ці бег на месцы?
**22.35** Форум (ток-шоу): Карупцыя назаўсёды!
**23.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.50** Парадокс, серыял.
**00.35** Студыя «Белсат».

## 29 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Каханне - не бульба».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Думай, як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).
**16.30** Шпіёнскі серыял «Чужы твар».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Трэба разабрацца.
**21.30** Шматсерыйны фільм «Кат».
**23.25** Мастацкі фільм «Непадкантрольны».
**01.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**08.30** «Апошняе каханне на Зямлі».
**10.05** Сардэчна паскардзіцца.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Культурная сталіца». Брэст.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Белая ноч, пяшчотная ноч».
**22.05** Глядзець усім!
**22.10** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**01.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Познавательно- забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.35** Вось дык так!
**12.15** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.55** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.00** Камедыйнае фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Тры вясёлыя змены». Прыгодніцкі фільм. 3-я серыя (СССР, 1977 г.).
**09.05** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Тры вясёлыя змены».
**09.35** «Асенні марафон». Трагікамедыя (СССР, 1979 г.).
**11.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.45** «За што?» Гістарычная драма (Расія-Польшча, 1995 г.).
**13.35** «Пра землі і людзей». Дакументальны фільм.
**14.00** «Кромвель». Біяграфічная драма (Вялікабрытанія, 1970 г.).
**16.15** «Сіла веры».
**16.45** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Тры вясёлыя змены».
**17.10** «Тры вясёлыя змены». Прыгодніцкі фільм. 3-я серыя (СССР, 1977 г.).
**18.15** «Калейдаскоп».
**18.30** «Казкі старога Арбата». Трагікамедыя (СССР, 1982 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** Лёс гігантаў. «Рыжская аўтобусная фабрыка».
**21.25** «Мяняльы». Авантурная камедыя (Расія, 1992 г.).
**22.55** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.
**23.50** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Гандбол. SEHA-ліга. Вардар - БГК імя Мяшкова.
**08.00** Баскетбол. НБА. Аклахома - Сан Антоніо.
**09.35** Сучаснае пяцібор'е. Кубак свету.
**10.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**12.00** Плаванне. Кубак свету. Токіо.
**14.30** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**16.30** Хакей. Дынама - Металург.
**18.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**18.55** PRO спорт. Навіны.
**19.00** Хакей. Гомель - Юнацтва.
**21.15** Баскетбол. НБА. Аклахома - Сан Антоніо.
**22.55** PRO спорт. Навіны.
**23.05** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Расціслаў Смаленскі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Трэці сектар: прагрэс, рэгрэс ці бег на месцы?
**11.05** Парадокс, серыял.
**11.50** Форум (ток-шоу): Карупцыя назаўсёды!
**12.30** Студыя «Белсат».
**13.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Расціслаў Смаленскі.
**13.35** Студыя «Белсат».
**15.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Трэці сектар: прагрэс, рэгрэс ці бег на месцы?
**16.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Расціслаў Смаленскі.
**16.55** Невядомая Беларусь: Кантрабандысты, д/ф.
**17.25** Форум (ток-шоу): Карупцыя назаўсёды!
**18.10** Абед, рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.35** Хадаркоўскі, д/ф.
**00.25** Студыя «Белсат».

# TV

## 30 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Каханне - не бульба».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).
**16.35** Шпіёнскі серыял «Чужы твар».
**17.40** Зроблена ў Беларусі.
**18.00** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**20.00** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**21.00** Панарама.
**21.45** Зроблена ў Беларусі.
**22.05** Меладрама «Развітанне».
**23.55** Навіны.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Час жаданняў».



**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** Мой бізнэс.
**23.15** Што? Дзе? Калі? ў Беларусі.
**00.45** Легенды Live.
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Белая ноч, пяшчотная ноч».
**10.20** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Зялёны агурок.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Кур'ер».
**22.10** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** «Магнолія».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна- забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**11.05** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.55** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.00** Мастацкі фільм «Людзі ў чорным 2».



**20.55** Хачу ў тэлевізар!
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.25** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.10** Рэпарцёр.
**00.55** Камедыйнае фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Жывая вада». Фільм-казка (Чэхаславакія, 1988 г.).
**09.35** «Кромвель». Біяграфічная драма (Вялікабрытанія, 1970 г.).



**11.50** «Калейдаскоп».
**12.00** «Казкі старога Арбата». Трагікамедыя (СССР, 1982 г.).



**13.45** «Андрэй Бембель: Смерць, Перамога, Слава». Дакументальны фільм.
**14.15** «Мянялы». Авантурная камедыя (Расія, 1992 г.).
**15.45** «Калейдаскоп».
**15.55** «Жывая вада». Фільм-казка (Чэхаславакія, 1988 г.).
**17.30** «Мелодыі стагоддзя». У выкананні Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь.
**18.25** «Калейдаскоп».
**18.40** «Стралец непрыкаяны». Трагікамедыя (Расія, 1993 г.).
**20.10** «Камертон». Мастачка Марына Эльяшэвіч.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Лёс гігантаў». БелАЗ.
**21.30** «Пракажоная». Меладрама (Польшча, 1976 г.).
**23.00** «Камертон». Мастачка Марына Эльяшэвіч.
**23.25** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Хакей. Гомель - Юнацтва.
**09.00** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**13.05** Баскетбол. НБА. Нью-Ёрк - Атланта.
**14.45** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**15.15** Змешаныя адзінаборствы.
**17.50** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**18.20** Піт-стоп.
**18.50** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Фактар сілы.
**19.25** Хакей. КХЛ. Дынама - Салават Юлаеў.
**21.45** Баскетбол. НБА. Нью-Ёрк - Атланта.
**23.25** PRO спорт. Навіны.
**23.35** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.05** Кішынёў ад золку да змяркання, д/ф.
**11.50** Студыя «Белсат».
**12.20** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**12.50** Студыя «Белсат».
**15.05** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**15.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**16.00** Хадаркоўскі, д/ф.
**17.55** Чорным па белым: Трэці сектар: прагрэс, рэгрэс ці бег на месцы?
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні: Клім Смаляціч і Абрам Смаленскі.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** ПраСвет.
**22.20** Грозны. Чачэнскі тыгр Пуціна, д/ф, 2015 г., Польшча.
**23.10** Ціхі хаос, м/ф.
**01.00** Студыя «Белсат».

## 31 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.40** Існасць.
**07.25** Меладрама «Берагі кахання».
**09.00** Навіны.
**09.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток шоў.
**12.50** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**13.30** Выхад ёсць.
**14.00** Меладрама «Адзін на ўсіх».
**15.00** Навіны.
**15.15** Краіна.
**18.20** Меладрама «Зноў адзін на ўсіх».
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Зноў адзін на ўсіх».
**22.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».
**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Меладрама «Вар'яцкі юбілей».

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.30** Смак.
**11.10** Чужы сярод сваіх.
**12.10** Разумніцы і разумнікі.
**12.55** Рэаліці-шоў «Аўтобус».
**13.25** Мастацкі фільм «Каралеўства поўнага Месяца».
**15.10** Следства пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Халоднае лета пяцьдзесят трэцяга».
**18.20** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** Мастацкі фільм «Хацеў бы быць тут».



**00.25** Мастацкі фільм «Кэлі ад Джасціна».

### СТВ

**06.00** «Олівер Твіст».
**07.50** Анфас.
**08.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.00** Сакрэтныя тэрыторыі.
**10.00** Іншая краіна.
**11.20** «Мінск і мінчане».
**11.55** «Салдаты 5». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Вікторыя і Альберт».
**15.25** Вадзіць па-руску.
**15.50** «Вялікі горад».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.40** «Наша справа».
**16.55** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.20** «Мэверык».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Пасланне ў бутэльцы».
**22.30** Вялікія таямніцы сусвету.
**01.00** «Вікторыя і Альберт».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**07.30** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**08.00** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**10.05** Азбука густу.
**10.35** Серыял «Прыгоды Дзіна».
**10.55** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**11.05** Тэлебарометр.
**11.55** Капейка ў капейку.
**12.35** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**14.20** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**15.20** Трылер «Анёлы і дэманы».
**17.50** Бітва экстрасэнсаў.
**18.00** Ваша лато.
**19.50** «Панаехалі». Рэаліці-шоў.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Камедыя «27 вяселляў».
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.25** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**00.20** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.45** «Калейдаскоп».
**07.55** «Дзень святога Валянціна». Камедыя (Расія, 2000 г.).
**09.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**09.35** «Аленевае паляванне». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**10.45** «Чырвоны бераг». Дакументальны фільм.
**11.15** «Дачка камандзіра». Ваенная кінааповесць (СССР, 1981 г.).
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Тапёр». Драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1989 г.).
**15.00** «Славянскі базар-2010». Творчы вечар Раймандa Паўлса.
**16.15** «Дзень святога Валянціна». Камедыя (Расія, 2000 г.).
**17.20** «Калейдаскоп».
**17.35** «Прыватны візіт у нямецкую клініку». Прыгодніцкі фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1988 г.).
**19.45** Леанід Млечын прадстаўляе. «Яна не стала каралевай». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Дазвольце расказаць!». Амерыканскі гітарыст Стэнлі Джордан.
**21.10** «Да скарбаў авіякатастрофы». Прыгодніцкая драма (Аўстралія, Новая Зеландыя, ЗША, 1981 г.).
**23.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Уладзімір Карачэўскі.
**23.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**07.55** Піт-стоп.
**08.25** Баскетбол. НБА. Кліўленд - Маямі.
**10.10** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**12.05** Хакей. КХЛ. Дынама - Салават Юлаеў.
**13.55** Футбол. Дынама - Белшына.
**16.00** Футбол. На шляху да ЧС-2018.
**16.25** Фактар сілы.
**16.55** Баскетбол. Чырвоны Кастрычнік - Цмокі.
**18.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Чэлсі - Ліверпуль.
**20.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Крыстал Палас - Манчэстар Юнайтэд.
**22.40** Тэніс Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**00.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Клім Смаляціч і Абрам Смаленскі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Што такое метэарыты?
**10.20** Цікуха, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.25** Між намі, буслামі, мультсерыял.
**10.50** Машына зменаў, тэлесерыял.
**11.20** «Рок-карона: 1997–1999», архіўныя запісы: ч. 1.
**11.55** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**12.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.50** Абед, рэпартаж.
**13.05** Ціхі хаос, м/ф.
**14.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.30** Грозны. Чачэнскі тыгр Пуціна, д/ф.
**16.25** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.05** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**17.55** Ратаўнікі, серыял.
**18.40** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Крэва.
**18.55** Дзеці Гітлера, д/ф.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.35** Мова нанова: Здаровае харчаванне.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Людскія справы.
**21.40** Невядомая Беларусь: Дзеці ксяндза Шаплевіча, д/ф.
**22.15** Провады, драма.
**00.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.20** Студыя «Белсат».
**01.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 1 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

**1 Беларусь**

**07.10** Меладрама «Развітанне».
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».



**10.40** 50 рэцэптаў першага.
**11.20** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Зона Х.
**13.05** Вялікі рэпартаж.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Вар'яцкі юбілей».
**17.30** Меладрама «Сон як жыццё».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Берагі кахання».
**00.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».

**НТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.35** Разам з дэльфінамі.
**14.20** Мастацкі фільм «Тры плюс два».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Аляксандр Градскі.
**17.25** Драма «Люстэркі».
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**21.20** Справа прынцыпу.
**23.20** Што? Дзе? Калі ? Восеньская серыя.
**00.40** Мастацкі фільм «Метад».

**СТВ**

**06.30** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**06.20** Сардэчна паскардзіцца.
**07.40** Аўтапанарама.
**08.05** «Пасланне ў бутэльцы».
**10.15** Чыстая праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 6». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Вікторыя і Альберт».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** «Аўтапанарама».
**17.20** Ваенная таямніца.
**19.30** Тыдзень.
**20.25** «Квартэт».
**22.20** Званая вячэра.
**23.55** «Вікторыя і Альберт».
**01.30** Дакументальны праект.

**2 Беларусь**

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.05** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.00** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**10.30** Тэлебарометр.
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.05** Разбуральнікі міфаў.
**13.05** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**15.15** Баявік «Людзі ў чорным 2».
**16.35** Трылер «Анёлы і дэманы».
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.25** Хачу ў тэлевізар!
**23.25** Містычны трылер «Прывіды» (Вялікабрытанія).
**00.30** Камедыйнае фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

**3 Беларусь**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.25** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**09.50** «Прыватны візіт у нямецкую клініку». Прыгодніцкі фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1988 г.).
**12.00** «Калейдаскоп».
**12.10** «Размовы пра духоўнае».
**12.25** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Уладзімір Карачэўскі.
**13.05** «Наперад у мінулае».
**13.30** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.25** «Справы фамільныя». «Добрушская папяровая фабрыка».
**14.50** «Музеі Беларусі». Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі і рэлігіі.
**15.20** «Калейдаскоп».
**15.30** «Размовы пра духоўнае».
**15.40** «Гітара па крузе». Дуэт Ніна Тарасава і Алена Хомская, дыпламанты Усерасійскага конкурсу эстрадных выканаўцаў.
**16.45** «Пракажоная». Меладрама (Польшча, 1976 г.).
**18.15** «Калейдаскоп».
**18.30** «Размовы пра духоўнае».
**18.40** «Пачуцце». Ваенная драма (Італія, 1954 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Анастасія Валачкова. «Нерв». Шоу ў Крамлёўскім палацы з'ездаў.
**22.00** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**23.25** Леанід Млечын прадстаўляе. «Яна не стала каралевай». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**00.25** «Калейдаскоп».
**00.35** «Размовы пра духоўнае».

**5 Беларусь**

**07.30** Футбол. Дынама - Белшына.
**09.20** Баскетбол. НБА. Нью Арлеан - Голдэн Стэйт.
**10.55** Баскетбол. Чырвоны Кастрычнік - Цмокі.
**12.35** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**13.00** Футбол. На шляху да ЧС-2018.
**13.30** Тэніс Вынікі турнір ВТА. Сінгапур.
**15.30** Піт-стоп.
**15.55** Гандбол. SEHA-ліга. БКГ ім. Мяшкова - Нексе.
**17.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**18.25** Авертайм.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Саўтгэмптан - Борнмут.
**21.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Эвертан - Саўтгэмптан.
**23.15** PRO спорт. Навіны.
**23.30** Баскетбол. НБА. Бостан - Сан-Антоніа.

**БЕЛСАТ TV**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Што такое метэарыты?
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Між намі, буслямі, мультсерыял.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю правы (юрыдычная праграма).
**09.25** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч: Вяртанне гістарычнай памяці беларусаў.
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Крэва.
**10.55** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Чаму бывае навальніца?
**11.05** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.10** Між намі, буслямі, мультсерыял.
**11.35** Машына зменаў, тэлесерыял.
**12.05** Мова нанова: Здаровае харчаванне.
**12.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.05** Дзеці Гітлера, д/ф.
**14.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.35** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.15** Людскія справы.
**15.45** Провады, драма.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Тбілісі ад золку да змяркання, д/ф.
**19.10** Невядомая Беларусь: Дзеці ксяндза Шаплевіча, д/ф.
**19.45** Сведкі: 1988.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Горад роспачы, д/ф, 2013 г., Германія.
**21.25** Кінаклуб: «Дараванне крыві».
**21.35** Дараванне крыві, м/ф.
**23.25** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**00.05** Усе святыя, м/ф.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію пацёкнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 625-57-51.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Украіна ў чаканні выбараў

**У нядзелю, 25 кастрычніка, Украіна выбірае органы мясцовага самакіравання. Пра асаблівасці цяперашняй выбарчай кампаніі і яе значэнне для агульнай палітычнай сітуацыі журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае кіеўскі палітолаг Юрый Палянін.**



***— У сувязі з адноснай стабілізацыяй сітуацыі на Данбасе, ці змяніўся ў апошні час украінскі палітычны дыскурс або дасюль прыярытэтнай застаецца тэма вайны?***

— Сітуацыя вельмі супярэчлівая. Тарыфы на камунальныя паслугі за апошнія два гады выраслі ў чатыры разы, заробак бюджэтнікаў за гэты час не змяніўся, а самі ўкраінскія зарплаты цяпер самыя нізкія у Еўропе. Таму можна пачуць шмат скаргаў на кепскі сацыяльны стан. Аднак у СМІ працягвае круціцца тэма вайны. У прынцыпе, гэта лагічна, сыходзячы з інтарэсаў кіруючай партыі, якая ўплывае на медыяпалітыку. У Парашэнкі і яго лагера мала дасягненняў у эканамічным сектары, і, як следства, тэма вайны дазваляе неяк захаваць твар.

***— Цяперашнія выбары адбываюцца па гарачых слядах жнівеньскіх пазатэрміновых выбараў на адной мажарытарнай акрузе ў Чарнігаве, дзе палітыкамі ўжываўся подкуп выбаршчыкаў. «Грэчка» (так называюць подкуп электарату на ўкраінскім палітычны слэнгу) выклікала гнеў грамадства, якое ўбачыла ў гэтым вяртанне эпохі Януковіча. А што на гэтых выбарах?***

— «Грэчка» як была, так засталася часткай выбарчых тэхналогій ва Украіне. Просты прыклад — гісторыя з кіеўскім мэрам Віталем Клічко, адміністрацыя якога раздае пенсіянерам па 100 грыўняў. Па словах мэра, сума ў 100 грыўняў не з'яўляецца подкупам. Такіх прыкладаў вельмі шмат. Таксама захавалася практыка зліву кампраматаў, з той толькі розніцай, што цяпер модна выстаўляць апанентаў прыхільнікамі сепаратыстаў. Ад выбараў у часы Януковіча выбары ў постмайданаўскай Украіне адрознівае хіба тое, што ў выбарчых гульнях цяпер удзельнічаюць параміліт арныя структуры, якія працуюць пры выбарчых штабах. Іх задача — надаваць палітыкам патрыятычную афарбоўку і ціснуць на праціўнікаў іх кандыдата.

***— Якія шанцы пераабрацца на пасаду кіеўскага мэра ў Віталя Клічко? Хто яго галоўны канкурэнт?***

— У Клічко нядрэнныя шансы, таму што амбіцыі мэра маюць яшчэ аж 28 палітыкаў. Гэта значыць, усе галасы супраць Клічко будуць распыленыя. Але ёсць перасцярогі, што ў першым туры ён не набярэ паловы галасоў, каб застацца мэрам, — так патрабуе новая рэдакцыя закона аб мясцовых выбарах. Шмат будзе залежаць ад таго, хто выйдзе ў другі тур і як ён будзе весці кампанію супраць мэра-баксёра. Справа ў тым, што будучы найбольш папулярным кандыдатам у мэры, Клічко, паводле апытанняў, адначасова з'яўляецца лідарам антырэйтынгу з-за недахопу канкрэтных дасягненняў. Не кажучы пра тое, што ён зусім не Цыцэрон, што прынесла яму інтэрнэт-славу.

> **Па 100 грн. раздае адміністрацыя кіеўскага мэра пенсіянерам. Віталь Клічко не лічыць гэту суму подкупам**

***— Дзе будзе найбольш гарачая кропка на выбарах 25 кастрычніка?***

— Хутчэй за ўсё, у Днепрапятроўску, дзе за крэсла змагаюцца Барыс Філатаў, пратэжэ мясцовага алігарха Ігара Каламойскага, і адыёзны мясцовы экс-рэгіянал Аляксандр Вілкул. Клан Вілкула вядомы па ўсёй краіне сваёй нахабнасцю, гатоўнасцю гуляць на мяжы закона. Задушыць клан не змог нават той жа Каламойскі падчас свайго губернатарства, калі яму як выратавальніку краю ад пагрозы сепаратызму, па-сутнасці, выдалі карт-бланш. У Вілкула і ў тыя няпростыя часы заставаліся кавалкі вобласці, якія кантраляваліся экс-рэгіяналамі. Горача будзе і на Данбасе, дзе выбуханебяспечная сітуацыя: большасць кандыдатаў — гэта людзі алігарха Ахметава, што вельмі не падабаецца добраахвотным батальёнам нацыянальных сіл, якія там знаходзяцца.

***— Якія электаральныя перспектывы ў Апазіцыйнага блока і іншых праектаў, якія ўзніклі на базе былой Партыі рэгіёнаў?***

— Не самыя кепскія, што абсалютна адпавядае рэаліям. У майданаўскіх партый на Усходзе і Поўдні няма патрэбнай колькасці кадраў з вопытам адміністратыўнай працы, а іх актывісты не вядомыя насельніцтву, тут іншая палітычная культура. Пасля Еўрамайдану цэлыя вобласці ператварыліся ў аўтаномныя феоды, якімі кіруюць мясцовыя экс-рэгіяналы. Тут паступова складваецца лакальная палітычная сцэна, якая цалкам адрозніваецца ад агульнаўкраінскай. Напрыклад, у Адэсе фаварытам на выбарах лічыцца партструктура «Доверяй делам», назва якой наўрад ці нешта гаворыць тым, хто жыве за межамі гораду. У той жа час кандыдат, якога лабіруе зорка ўкраінскай дэмпрэсы Міхаіл Саакашвілі, не мае і 15 працэнтаў падтрымкі.

***— Літаральна напярэдадні выбараў выбухнуў скандал, звязаны з партыяй «Свабода». Партыю, якая была адным з драйвераў пратэстаў на Майдане, ускосна абвінавацілі ў расстрэлах Нябеснай сотні. Ці можна тлумачыць такі замах на майданаўскі міф як спробу перафарматаваць дыскусію апошніх двух гадоў, каб уключыць у праўладны блок пострэгіяналаў?***

— Рэгіяналы, калі меркаваць па тым, як яны галасуюць у Вярхоўнай Радзе за заканадаўчыя ініцыятывы Парашэнкі, — даўно ўжо частка праўладнай партыі. Іх непасрэдны ўдзел у складзе ўраду, думаю, магчымы, аднак для гэтага патрэбныя згода звонку і адпаведная піяр-кампанія. Патэнцыйна поспех экс-рэгіяналаў на выбарах 25 кастрычніка можа спрыяць іх рэабілітацыі. У тым ліку таму, што ўсё больш папулярнай у грамадстве становіцца ідэя датэрміновых парламенцкіх выбараў, пасля якіх са складу дэпутацкага корпусу могуць знікнуць не гатовыя да кампрамісаў майданаўцы і камбаты. У прэсе нават называюцца канкрэтныя тэрміны новых выбараў у Вярхоўную Раду — вясна наступнага года.

***— Мясцовыя выбары 25 кастрычніка сфармуюць органы самакіравання, якія будуць дзейнічаць паводле закону аб дэцэнтралізацыі, які прайшоў першыя слуханні. У чым галоўная адметнасць новай мадэлі?***

— Пра рэформу мясцовага самакіравання кажуць вельмі шмат, аднак яе практычная сутнасць большасці выбаршчыкаў дасюль не зразумелая. Узбуйненне раёнаў, з'яўленне інстытутаў прэфектаў і старастаў, фінансавая аўтаномія мясцовых органаў улады — гэтыя і іншыя змены, якія павінна прынесці рэформа, трактуюцца абсалютна па-рознаму. У дадатак агучваецца думка пра тое, што дэцэнтралізацыя патрэбная Парашэнку, каб неяк праштурхнуць Мінскія пагадненні, якія патрабуюць даць захопленай сепаратыстамі частцы Данбасу аўтаномны статус. Нарэшце, не зразумела, як новы закон будзе працаваць у напалову ваенных умовах, у якіх жыве Украіна.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Першымі, каго мы маглі б уцягнуць за сабой у займальную гульню пабудовы абноўленай краіны, маглі стаць беларусы. Але не толькі і не столькі страх верагоднага кровапраліцця стрымаў рэвалюцыйны парыў беларусаў, якія зноў абралі Лукашэнку. Занадта доўгая паміж нашымі краінамі агульная мяжа і занадта кароткі шлях на цягніку з Кіева ў Мінск, каб зразумець, што нашы паўночныя суседзі не ўспрымаюць тое, што адбываецца ва Украіне толькі скрозь прызму блакітных экранаў. Беларусы шчыра не разумеюць, навошта выходзіць з зоны свайго дыскамфорту, адпраўляючыся ў зону, дзе ўзровень камфорту на парадак ніжэй, чым цяпер. Украіна так і не паказала, што гульня таго каштавала, і іх выбар на карысць Лукашэнкі — у чымсьці следства нашага правалу.

**«Репортер» (Украіна)**

Адносіны Лукашэнкі і Пуціна нельга назваць лепшымі. Аляксандр Лукашэнка, быццам, адхіліў просьбу крамлёўскага лідара пра пабудову авіябазы ў Беларусі. Гэта будзе азначаць канец нейтралітэту Мінска, які ўсё ж застаецца першым і найболей трывалым саюзнікам Расіі сярод краін былога СССР. Адмена санкцый будзе глытком паветра для Лукашэнкі, дасведчанага эксперта ў манеўраванні паміж Расіяй і Еўрапейскім саюзам. Для ЕС падтрымаць Мінск — гэта не значыць вырываць яго з арбіты ўплыву Масквы, але дапамагчы яму адкрыцца і падтрымліваць свой нейтралітэт.

**«La stampa» (Італія)**

Захад дзесяцігоддзямі не займаўся Беларуссю сістэмна, спрабуючы гуляць наўпрост з Масквой. І сёння, калі гульні з Крамлём зайшлі ў тупік, празаходніх сіл там (у Беларусі) няма. Такім чынам, Лукашэнка апынаецца ўнікальным і незаменным. І калі ён гатовы гуляць сумесна з Захадам, то чаму б і не? А ён гатовы гуляць і весці мадэрнізацыю краіны на ўмовах Захаду, і нават, з часам, верагодна, дасць вырасці ў ёй сапраўдным празаходнім сілам. Пры адной толькі ўмове: яго самога і яго сыноў нельга чапаць. Гэта зусім невялікая плата за эвалюцыйны разварот Беларусі ад Расіі ў Еўропу — без вайны, узрушэнняў, майданаў, расійскіх ветлівых чалавечкаў. І ЗША з ЕС ахвотна на такі размен пойдуць. Тым больш, што выхадкі Бацькі ў параўнанні з тым жа Пуціным выглядаюць як дробныя слабасці, якія можна даравань.

**«Деловая столица» (Украіна)**

Цяпер у яго (Лукашэнкі) вельмі цяжкая сітуацыя, таму што, з аднаго боку, ён дабіўся зняцця часткі санкцый з боку Захаду, выпусціў усіх палітвязняў, дапусціў нават адну напалову ліберальную кандыдатку на выбары... З іншага боку, Пуцін паставіў яго цяпер перад немагчымым выбарам, таму што сказаў: «Мы будзем адкрываць у Беларусі ваенна-паветраную базу», чаго Лукашэнка катэгарычна не хоча дапускаць. Ён ужо нагледзеўся, чым канчаецца прысутнасць расійскіх ваенна-паветраных баз у Крыме, у Паўднёвай Асеціі, у Абхазіі і ў розных іншых цікавых месцах. Ён разумее, што фактычна гэта канец суверэнітэту Беларусі. І вось як ён будзе выкручвацца, знаходзячыся паміж жорсткімі ўказаннямі Бруселя і жорсткім указаннем Масквы неадкладна даць магчымасць па адкрыцці найбуйнейшай ваенна-паветранай базы, ніхто не ведае.

**«RFI» (Францыя)**

Ці прыдатны цяпер час для рашэння ЕС — замарозіць санкцыі? Напэўна, прыдатны час, таму што гэта рэакцыя на вызваленне палітвязняў. Дадаліся яшчэ аргументы «за» — бо не было ніякіх рэпрэсій. З іншага боку, трэба сказаць, што рэпрэсіяў не было, паколькі не было і якога-небудзь значнага пратэсту. Рэальна сітуацыя ў Беларусі, на жаль, не мяняецца. Тыя палітвязні, якіх вызвалілі... іх вызвалілі, але няма ніякіх гарантый, што, напрыклад, у лістападзе іх не арыштуюць. Абмежаванні правоў чалавека, абмежавання волі, у прынцыпе, застаюцца. Апазіцыя цалкам маргіналізаваная, незалежных СМІ практычна няма, яна вельмі абмежаваная, а грамадзянская супольнасць — у падполлі.

**«Delfi» (Літва)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Ліфты асвецяць пад выбары

Выбарчая кампанія ў мясцовыя саветы ва Украіне не абышлася без незвычайнага крэатыву. Найбольш творча распрацавалі сваю піяр-кампанію сябры правай партыі «Свабода» ў Івана-Франкоўску. Кандыдаты ад партыі прываблівалі электарат абяцаннямі... асвяціць ліфты ў пад'ездах. Ва ўлётках, што раздаваліся жыхарам гораду за тыдзень да галасавання, анансавалася акцыя «асвячэнне ліфта» ў адным з дамоў на цэнтральнай вуліцы гораду. Мяркуючы па тым, што наклад улётак — тысяча асобнікаў, піяршчыкі чакалі, што мерапрыемства будзе масавым. Як піша гарадская прэса, гэтая перадвыбарная акцыя моцна ўскалыхнула жыхароў абласнога цэнтра Прыкарпацця — людзі асцерагаюцца, што непрацуючыя ліфты цяпер будуць перарабляць у капліцы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Трэці Рэйх пад Нью-Ёркам

Амерыканскае грамадства шакіраванае. Аказваецца, усяго ў 65 кіламетрах ад Нью-Ёрку існуе камуна, дзе жывуць па законах Трэцяга Рэйху. Гаворка пра месца пад назвай Yaphank. Гэта не арыгінальная назва. Спачатку Yaphank называўся Siegfried Park, а заснавалі яго ў 1830-я гады сябры Нямецка-амерыканскай лігі перасяленцаў (GASL). Паколькі актыў Лігі вельмі сімпатызаваў нацыстам, Siegfried Park планавалі арганізаваць па ўзоры тагачаснай Германіі. Той, хто наведаў перад вайной Siegfried Park, мог наткнуцца на парк імя Ёзафа Гебельса або плошчу імя Адольфа Гітлера. Натуральна, у час Другой сусветнай вайны тапаніміку падкарэктавалі, а само месца перайменавалі. Аднак да статутных дакументаў рукі ў чыноўнікаў не дайшлі. У выніку, як нядаўна выпадкова высветлілася, Статут камуны дасюль дазваляе мець нерухомасць на яе тэрыторыі выключна прадстаўнікам белай расы. Белым тубыльцам таксама забараняецца прадаваць сваю ўласнасць, каб ніхто заставаліся тут назаўжды. Няма сумневаў, што пасля цяперашняга скандалу Yaphank, дзе цяпер знаходзіцца каля 50 дамоў, чакаюць значныя перамены.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Краіна больш не будзе нейтральнай

Туркменістан, сутыкнуўшыся з пагрозамі нападаў з боку радыкалаў з Афганістана, спрабуе знайсці падтрымку ў ЗША. У Вашынгтон па даручэнні прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедава прыбыла дэлегацыя на чале з кіраўніком МЗС краіны. Дэлегацыя мае намер абмеркаваць пытанні бяспекі Туркменістана. Фон для візіту вельмі напружаны. Калі верыць СМІ, у апошнія дні радыкальныя групоўкі з Афганістана пачынаюць дзе-нідзе атакаваць туркменскую мяжу. Мінабароны Туркменістана вымушана пачаць перадыслакацыю баявой тэхнікі на мяжу з Афганістанам. У канфлікт уцягваецца Узбекістан. Ташкент абяцаў аказаць дапамогу Ашхабаду ў ахове мяжы і пастаўках зброі. Нарэшце, 20 кастрычніка ў прэсу трапіла інфармацыя пра тое, што амерыканцы нібыта паабяцалі Ашхабаду бяспеку на мяжы, і падтрымку ў будаўніцтве газаправода Туркменія—Афганістан—Пакістан—Індыя ў абмен на размяшчэнне сваіх самалётаў на аэрадроме ў горадзе Мары. Калі гэта праўда, то ў Туркменістане скончылася эра нейтралітэту, які быў закладзены ў аснову нацыянальнай дактрыны. Застаецца сказаць, што плёткі пра базу адразу выклікалі негатыўную рэакцыю ў праваабаронцаў. Туркменістан — гэта ўзорная цэнтральна-азіяцкая дыктатура, элементам якой з'яўляюцца выкраданне апанентаў улады.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗАМБІЯ. Малітва супраць інфляцыі



У гэтай афрыканскай краіне 19 кастрычніка была незвычайная нядзеля. Футбольныя матчы — любімае хобі замбійцаў — адмянілі, а ўсе бары зачынілі. А ўсё таму, што ў гэты дзень адбывалася агульнанацыянальная малітва за стабільнасць нацыянальнай грашовай адзінкі. Да правядзення такой малітвы заклікалі мясцовыя пратэстанцкія арганізацыі і ўлады. Па словах ініцыятараў акцыі, замбійцы ў гэты дзень прасілі ў вышэйшых сілаў, каб тыя ўтрымалі курс мясцовай валюты Kwacha. Kwacha стала губляць свой кошт пасля таго, як на сусветных рынках пачала падаць цана на сыравіну, а нацыянальны бюджэт значна залежыць ад аб'емаў продажу медзі, што здабываюць тут. У выніку за пагода Kwacha стала танней на 45 працэнтаў. «Бог ёсць таксама Бог цудаў, і калі мы просім яго, ён паслухае нас, і курс Kwacha будзе адноўлены ў сваёй ранейшай сіле, і цэны на тавары павінны зноў пайсці ўніз», — мяркуе вядучы мясцовы біскуп. Прыняў удзел у малітве за выратаванне Kwacha, якая цягнулася цэлых 5 гадзінаў, і замбійскі прэзідэнт Эдгар Лунгу.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Ад нянавісці да любові

Алег НОВІКАЎ

**Фаварытам прэзідэнцкіх выбараў 2017 года ў Францыі нечакана аказаўся былы экс-прэм'ер Ален Жупэ. Наколькі рэалістычная перамога палітыка, якога 20 гадоў таму большасць французаў літаральна ненавідзела?**



**Ален Жупэ.** Фота www. berita.ru

Як вядома, Нікаля Сарказі — вялікі прыхільнік амерыканскага ладу жыцця. І, хутчэй за ўсё, менавіта былы прэзідэнт прапанаваў аднапартыйцам імпартаваць з-за акіяну такую амерыканскую штуку як праймерыз. Так ці інакш, абіраць кандыдата ў прэзідэнты Францыі ад галістаў на гэты раз было вырашана праз механізм унутрыпартыйных выбараў.

На момант запуску праекта ніхто не сумняваўся, што менавіта партыйны правадыр Нікаля Сарказі стане пераможцам. Аднак за некалькі месяцаў да праймерыз, апытанні сярод галістаў стабільна выдавалі высокі працэнт на карысць Алена Жупэ (37 працэнтаў). У прэсе адразу з'явіліся першыя публікацыі, аўтары якіх агучвалі думку пра тое, што Жупэ здольны пазмагацца за гаспадаранне ў Елісейскім палацы.

Аднак найперш, натуральна, трэба нагадаць, хто ж такі Ален Жупэ. Ён нарадзіўся ў 1945 годзе і зрабіў кар'еру ў палітыцы дзякуючы падтрымцы Жака Шырака, з якім Жупэ працаваў з сярэдзіны 1975 года і быў адказны за фінансы. Цікава, што сам Ален кажа, што браў удзел у студэнцкіх левырадыкальных беспарадках 1968-га, а падчас першага паходу на выбарчы ўчастак галасаваў за трацкістаў.

**Прозвішча Жупэ актыўна мільгала ў прэсе СНД у сярэдзіне 1990-х. Тады прэм'ер задумаў радыкальную рэформу сацыяльнай сістэмы, што раз'юшыла прафсаюзы. Прафцэнтры вывелі на вуліцы больш за два мільёны чалавек. Супрацьстаянне доўжылася ўсю восень і зіму 1995–1996 года**

Апошні раз прозвішча Жупэ актыўна мільгала ў прэсе СНД у сярэдзіне 1990-х гадоў. Тады прэм'ер задумаў радыкальную рэформу сацыяльнай сістэмы, што раз'юшыла прафсаюзы. Прафцэнтры вывелі на вуліцы больш за два мільёны чалавек. Супрацьстаянне доўжылася ўсю восень і зіму 1995–1996 года. Нягледзячы на блакады, страйкі на чыгунцы, пратэсты нават сваіх жа супрацоўнікаў па ўраду, Жюпэ ўпарта гнуў сваю рэфарматарскую лінію. Аднак у 1998 годзе правыя прайгралі выбары, і да ўлады прыйшоў кабінет сацыялістаў.

Пакінуўшы пасаду прэм'ера, палітык не згубіўся. За апошнія дзесяцігоддзі Жупэ паспеў пабываць мэрам Бардо, дзяржаўным міністрам, міністрам па справах навакольнага асяроддзя, дырэктарам Мінабароны і МЗС. Акрамя таго ён рэгулярна выдае кніжкі на філасоўска-палітычныя тэмы, а адна з іх, пра погляды Мантэск'ё, нават вытрымала два выданні. За Жупэ замацаваўся імідж рэфарматара і палітыка з вопытам, што забяспечыла яму павагу ў партыі. Час ад часу гулялі плёткі пра тое, Жупэ што вось-вось вернецца ў вялікую палітыку і, падаецца, зараз гэты час настаў.

Інтарэс публікі да Жупэ перш за ўсё тлумачаць яго блізкім да французскай ідэнтычнасці іміджам, які прэса называе «comestible» (фр.: ядомы). Знешне Ален Жупэ падобны на пазнавальны тып класічнага французскага патрона, які не цураецца простага чалавека. Нават лысінай і хударлявасцю ён чымсьці нагадвае Жыскар д'Эстэна, прэзідэнта, у час кадэнцыі якога сістэма сацыяльнай абароны ў Францыі дасягнула свайго піку. Нікаля Сарказі і Франсуа Аланд у параўнанні з Жупэ выглядаюць тэхнакратамі, якія трымаюць людзей за інструментарый.

Жупэ можна падтрымаць і французская эліта, якая баіцца высокіх рэйтынгаў непрадказальнай Марын Ле Пэн, лідара праварадыкальнага «Нацыянальнага фронту», якая, калі верыць апытанням, хутчэй за ўсё трапіць у другі тур прэзідэнцкіх выбараў. Дзякуючы камбінацыі часткі лібералаў і часткі сацыялістаў, «ядомы» Жупэ можна стварыць шырокі фронт супраць мадам Ле Пэн.

Якія перашкоды могуць чакаць Жупэ на такім, падавалася, пераможным шляху? Натуральна, у яго хапае шкілетаў у шафе. У 2004 годзе Жупэ быў абвінавачаны ў растраце дзяржаўных сродкаў (гаворка ідзе аб незаконным фінансаванні партыі галістаў за кошт парыжскай казны), адданы пад суду і прысуджаны да ўмоўнага турэмнага зняволення на паўтара года, паразы ў грамадзянскіх правах на 5 гадоў і забароны балатавацца ў выбарныя органы улады на 10 гадоў. Але гэтую гісторыю наўрад ці ўзгадаюць. Сярод французаў ходзіць чуткі пра тое, што Жупэ тут не пры чым. За правапарушэнні, інкрымінаваныя Жупэ, павінен несці адказнасць Жак Шырак, які быў кіраўніком сталічнай мэрыі. Аднак паколькі прэзідэнт Францыі, нават былы, лічыцца недатыкальнай асобай, крайнім зрабілі Жупэ. Апошні дзеля захавання аўтарытэту інстытуту прэзідэнцтва пагадзіўся стаць стрэлачнікам.

Значна больш праблемаў для Жупэ можа стварыць экскурс у гісторыю 20-гадовай даўніны, які абавязкова арганізуюць для выбаршчыкаў яго праціўнікі. Яны нагадаюць, як уся працоўная Францыя крытыкавала прэм'ера за яго тагачасны план, які патрабаваў росту коштаў на медычныя паслугі, блакаванне росту сацыяльнай дапамогі для сем'яў у спалучэнні з павелічэннем страхавых унёскаў для пенсіянераў і беспрацоўных, плюс падаўжэнне працоўнага часу для бюджэтнікаў. З-за плану Жупэ папулярнасць ураду за паўгода абрынулася з 60 да 30 працэнтаў. Усё гэта, натуральна, будуць падаваць пад тэзісам пра тое, што менавіта Жупэ стаяў ля вытокаў разбурэння французскай сацыяльнай мадэлі.

Аднак, на думку шмат каго, Жупэ будзе цяжка перамагчы на праймерыз з-за магчымых учынкаў Сарказі, які проста не любіць прайграваць. Калі верыць некаторым выданням, Нікаля Сарказі ўжо пачаў апрацоўку мясцовых партыйных кіраўнікоў наконт таго, як трэба галасаваць на праймерыз. Сам жа Ален Жупэ пакуль асцярожна абыходзіць пытанні наконт удзелу ў кампаніі.




Фота www.islam-today.ru

# Суніты супраць шыітаў

**Усё часцей у СМІ можна сустрэць тэзіс пра тое, што канфлікт на Блізкім Усходзе пераходзіць у татальную міжканфесійную вайну паміж шыітамі і сунітамі. Прычыны супрацьстаяння і магчымыя сцэнары развіцця падзей журналіст НЧ Алег Новікаў абмяркоўвае з азербайджанскім экспертам Намікам Мамедавым.**

***— У двух словах: што за чорная котка прабегла паміж шыітамі і сунітамі?***

— У двух словах складана, але... Шыіты з'явіліся ў выніку барацьбы за ўладу пасля смерці Прарока. Праўда, не адразу, а праз некалькі стагоддзяў. Нашчадкі паплечнікаў Прарока, якія змагаліся за ўладу, пасварыліся з некаторымі плямёнамі. Гэтая варожасць праз пару стагоддзяў вылілася ў стварэнне асобнага напрамку ў ісламе — шыізм, які стварыў інстытут імамаў (нашчадкаў) па лініі Прарока, чаго не прызнаюць суніты. У рэальнасці шыізм прыдуманы персамі як апраўданне для барацьбы супраць арабаў, якія раней заваявалі Персію і прымусілі тубыльцаў прызнаць іслам. Так што рэальная прычына варожасці — гэта канфлікт паміж персамі і семітамі, які цягнецца больш за дзве тысячы гадоў і пачаўся значна раней за з'яўленне ісламу.

Існуе таксама варожасць паміж персамі і цюркскімі плямёнамі як вынік мангола-татарскага нашэсця, у якім бралі ўдзел цюркі. Традыцыя негатыўнага стаўлення да туркаў так і засталася ў памяці персаў: яны заўсёды ставіліся да турак з недаверам і заўсёды ваявалі з імі, дапамагаючы рускім войскам у руска-турэцкіх войнах. Вось амаль у двух словах прычына канфлікту: персы заўсёды ваявалі супраць арабаў, а затым ужо і супраць турак.

***— Аднак туркі не ваююць з іранцамі.***

— Турэцкі прэм'ер Эрдаган вядзе вайну з іранамоўнымі курдамі. Дастаецца таксама хрысціянамі і прадстаўнікам розных сектаў. Па маіх звестках, у Турцыі ідзе вайна супраць меншасцяў. Так было сто гадоў таму, і зараз усё паўтараецца. Генацыд армянаў быў кветачкамі ў параўнанні з пагалоўным знішчэннем шыітаў у Турцыі, як сёння гэта робіць Ісламская дзяржава і Эрдаган.

***— Чаму шыіцка-суніцкія адносіны абвастрыліся менавіта зараз?***

— Думаю, тут адыгрываюць ролю два фактары — рэсурсы і дэмаграфія. Справа ў тым, што гэтыя народы — суседзі, жывуць побач і традыцыйна спрачаюцца за рэсурсы. У паўночных раёнах Сірыі даўно нічто не жыве: усю ваду, якая паступала з Турцыі праз рэкі Еўфрат і Тыгр, «выпіваюць» туркі. Праз гэта сірыйцы з туркамі канфліктуюць не адно дзесяцігоддзе. У Емене ў паўднёвай частцы, дзе жывуць шыіты, таксама няма вады: усю ваду, якая паступае з поўначы, забіраюць вахабіты для сваіх патрэб. І там таксама даўно ідзе вайна.

Другі фактар — дэмаграфія. Насельніцтва Блізкага Усходу павялічылася амаль у дзесяць разоў за апошнія 60 гадоў. Такая шчыльнасць пры бедных водных і іншых рэсурсах абавязкова вядзе да выбуху. Тым больш адміністратыўныя межы, абазначаныя пасля Першай сусветнай вайны, не адпавядаюць межам зонаў, дзе кампактна пражываюць прадстаўнікі этнічных і рэлігійных групаў.

***— Мы бачым, што вялікія дзяржавы актыўна ўмешваюцца ў канфліктны рэгіён. Якія мэты яны пераследуюць?***

— Па сутнасці Францыя, Вялікабрытанія, ЗША, СССР, і яго пераемнік Расія, заўсёды прысутнічалі ў рэгіёне. У іх самыя розныя матывы для інтэрвенцый. Думаю, апошнім часам у іх з'явілася яшчэ адна прычына для актывізацыі сваёй прысутнасці. Пачалася глабальная вайна за рэсурсы, у тым ліку за нафтавыя запасы, на якія багаты Блізкі Усход. У дадатак вайна сама па сабе выгадна глабальным гульцам, паколькі скарачае здабычу і спажыванне гэтых рэсурсаў мясцовым насельніцтвам, не кажучы пра тое, што робіць рэгіянальныя дзяржавы больш слабымі і залежнымі.

***— Якімі могуць быць развязка і вынік канфлікту?***

— Пра развязку казаць цяжка, у тым ліку таму, што зараз пачынаецца новая фаза канфрантацыі. Я маю на ўвазе нараджэнне расійска-іранскага альянсу. У Маскве рыхтуюцца адчыніць пасольства курдаў, што яўна не спадабаецца Анкары і будзе мець наступствы. Акрамя таго, упершыню інтарэс да зоны канфлікту праявіў Кітай, які даўно набывае нафту ў Ірана. Нарэшце, трэба чакаць рэакцыі Захаду на актыўную падтрымку Масквой рэжыму Асада. Думаю, у канфлікт таксама будуць уцягвацца і іншыя суседнія краіны.

Дарэчы, менавіта пашырэннем геаграфіі канфлікту, на маю думку, выклікана апошняе рэзкае астуджэнне адносін Азербайджана з Захадам. Гутарка пра выхад Азербайджана з ініцыятывы «Усходняе партнёрства», пагрозы асабістых санкцый супраць азербайджанскага кіраўніцтва з боку Брусэля і г.д. Стаўленне да Захаду ў нас змянілася даволі рэзка, на працягу толькі аднаго года. Ёсць версія, што Аліеву на Захадзе далі зразумець — прыйшоў час, калі трэба прымыкаць да іх блоку, а палітыка нейтралітэту больш не будзе працаваць. Аналагічную прапанову зрабілі і ў Маскве. Рэжым Ільхама Аліева трапіў у пастку. Адсюль і істэрыка. Сітуацыя для кіраўніцтва ў Баку выглядае яшчэ больш крытычнай з-за эканамічнага крызісу. Азербайджанская эканоміка вельмі пацярпела з-за падзення коштаў на нафту. Заробкі тут скараціліся за год амаль удвая. Таму сітуацыя зараз вельмі напружаная.

> **Насельніцтва Блізкага Усходу павялічылася ў дзесяць разоў за 60 гадоў. Такая шчыльнасць пры бедных рэсурсах абавязкова вядзе да выбуху**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Міхаіл Касьянаў



Старшыня антыпуцінскай структуры «Рэспубліканская партыя Расіі — Партыя народнай свабоды» (РПР-ПАРНАС), былы прэм'ер РФ задумаў рэформу партыі, якая дапаможа палепшыць яе імідж (на вераснёўскіх рэгіянальных выбарах з РПР-ПАРНАС прагаласавала каля двух працэнтаў). Асноўныя складнікі рэформы — скарачэнне назвы і стаўка на буйныя гарады. Цяперашняя назва, на думку Касьянава, занадта складаная і цяжка ўспрымаецца выбаршчыкамі. Магчыма, партыю назавуць проста ПАРНАС, што мае гістарычны аспект. Партыяй народнай свабоды называлі сябе расійскія канстытуцыйныя дэмакраты — самая першая расійская ліберальная партыя, заснаваная ў 1905 годзе. Што тычыцца палітычных тэхналогій, то прынята рашэнне адмовіцца ад сустрэчаў з выбаршчыкамі ў дварах і паездак у глыбінку, якія, як давялі апошнія выбары, не далі патрэбнага эфекту. Рэформу кіраўніцтва ПАРНАС плануе закончыць да пачатку выбарчай кампаніі ў Дзяржджуму восенню наступнага года. Праўда, на шляху ёсць яшчэ праблема — Мінюст РФ, які ў верасні адмовіў партыі ў папраўках у статут.

### Джасцін Трудо



Ліберальная партыя Канады, лідарам якой з'яўляецца Трудо, перамагла на федэральных выбарах і зможа сфармаваць новы канадскі ўрад. Поспех лібералаў называюць гістарычным, паколькі ён паклаў канец дамінаванню кансерватараў у канадскай палітыцы. Адсюль чаканні пераменаў ад лібералаў, якія ішлі на выбары пад лозунгамі абароны сярэдняга класа, празрыстага ўраду, забеспячэння асабістай бяспекі і ўвагі да экалогіі. Ад новага прэм'ера чакаюць і карэкцыі знешняй палітыкі. Так, падчас кампаніі Трудо прапанаваў рабіць у Сірыі стаўку на гуманітарную дапамогу, а не на паветраныя атакі на ісламістаў, чым зараз займаецца канадская вайсковая авіяцыя. А вось як будзе фармавацца палітыка адносна Расіі, пакуль загадка. Раней лібералы асудзілі «расійскую агрэсію», і нават раскрытыкавалі ўрад кансерватараў за недастаткова паслядоўны курс наконт санкцый. Аднак паколькі такія заявы рабіліся, як правіла, у прысутнасці ўкраінскай дыяспары, расійская прэса прагназуе паляпшэнне ўзаемаадносін. Безумоўна, нельга не адзначыць, што Трудо — прадстаўнік палітычнай дынастыі. Бацька Джасціна, П'ер Трудо, быў прэм'ерам краіны з 1968 па 1984 год з невялікім перапынкам, і праславіўся ў тым ліку моўнымі рэформамі. Пры ім англійская і французская мовы сталі роўнымі. П'ер Трудо спадзяваўся, што ўвядзенне двухмоўя паралізуе заклікі да аддзялення Квебека. Нарэшце, прэм'ерства Джасціна Трудо — дэманстрацыя інтуіцыі амерыканскага прэзідэнта Рычарда Ніксана. У 1974-м ён наведаў сям'ю П'ера Трудо і, пабачыўшы маленькага Джасціна, прадказаў, што ён у свой час будзе прэм'ерам Канады.

### Нікалас Мадура



Прэзідэнт Венесуэлы прыняў дастаткова супярэчлівае рашэнне адносна правядзення прызначаных на 6 снежня парламенцкіх выбараў. Прэзідэнцкая адміністрацыя адмовіла ўсім замежным арганізацыям, якія жадалі дасылаць назіральнікаў на выбарчыя ўчасткі. Гісторыя з назіральнікамі выклікала падазрэнне ў грамадскасці наконт празрыстасці будучых выбараў. Тым больш, што яны праходзяць у вельмі цяжкі для ўраду час. У гэтым годзе інфляцыя ўжо склала больш за сто працэнтаў, а ў крамах назіраецца стабільны дэфіцыт тавараў. Спробы ўладаў перакласці адказнасць за дэфіцыт на ўладальніка вядучай нацыянальнай сеткі супермаркетаў не выклікалі росту рэйтынгу партыі Нікаласа Мадуры. Таксама электарат слаба рэагуе на патрыятычную істэрыку вакол памежнага канфлікту з Гаянай і дыпламатычнай перапалкай з Калумбіяй. Назіральнікі згодныя, што вынікі выбараў 6 снежня могуць запусціць працэс заканчэння эксперыменту Чавеса. Праўда, з улікам таго, што трое асноўных лідараў апазіцыі знаходзяцца за кратамі, пра перспектывы апанентаў Мадуры кажуць вельмі асцярожна.

# Рука Масквы: забойства ў Белавежскай пушчы



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Усе ведаюць пра героя польска-бальшавіцкай вайны 1920 года генерала Станіслава Булак-Балаховіча. І амаль не вядомы застаецца яго родны брат Юзаф, які загінуў у выніку замаху, падрыхтаванага, як лічаць некаторыя, Масквой.**

## Вайсковая кар'ера

Юзаф Нікадзімавіч Булак-Балаховіч нарадзіўся на Віленшчыне ў 1894 годзе ў сям'і дробных беларускіх землеўласнікаў. Увесну 1916 года ён паступіў на службу ў Рускае імператарскае войска. Праз год перавёўся ў польскі Першы корпус пад камандаваннем генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага. Пазней, разам з братам Станіславам, удзельнічаў у баявых дзеяннях супраць бальшавікоў у Эстоніі. Наконт этнічнай прыналежнасці братоў Балаховічаў да сённяшняга дня працягваюцца спрэчкі. Усім вядомы словы Юзафа Пілсудскага, якімі ён ахарактарызаваў Станіслава Булак-Балаховіча: «Сёння гэты чалавек рускі, заўтра паляк,



Юзаф Булак-Балаховіч

паслязаўтра беларус, яшчэ праз дзень — негр». Разам з тым адназначным з'яўляецца той факт, што лёс і жыццё братоў Булак-Балаховічаў былі звязаны з Беларуссю і з'яўляюцца неад'емнай часткай нашай нацыянальнай гісторыі.

У красавіку 1920 года Юзаф Булак-Балаховіч разам з братам стварылі шматнацыянальны атрад у складзе 3-й арміі Войска Польскага. Юзаф Нікадзімавіч неаднаразова ўдзельнічаў у жорсткіх баях з Чырвонай Арміяй і асабліва адзначыўся падчас нападаў на тылы бальшавікоў на Палессі. У белай арміі ён атрымаў званне палкоўніка, а ў польскай быў ужо генералам. У лістападзе 1920 года ў Мазыры Станіслаў Булак-Балаховіч абвясціў сябе галоўнакамандуючым беларускімі войскамі, а яго брат стаў камандзірам добраахвотніцкай арміі. Аднак хутка Чырвоная Армія пачала наступ, і «балахоўцы» вымушаны былі адступіць у Польшчу.

## У Белавежскай пушчы

Пасля заканчэння вайны шматлікія былыя жаўнеры арміі Булак-Балаховіча засталіся на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай. Ім давялося вучыцца жыць у мірных умовах. Значная колькасць «балахоўцаў» накіравалася ў Белавежскую пушчу: там была праца і магчымасць зарабіць на жыццё. Браты Булак-Балаховічы прыехалі ў Белавежу ў маі 1921 года. Юзаф разам з жонкай Зінаідай і сынам Здзіславам здымалі прыватны дом. Галава сямейства займаўся размяшчэннем сваіх былых жаўнераў і арганізацыяй для іх дапамогі. Пазней Юзаф Нікадзімавіч супрацоўнічаў з Дырэкцыяй дзяржаўных лясоў і адказваў за транспарціроўку лесаматэрыялаў з Белавежскай пушчы.

У Маскве, безумоўна, памяталі пра гэтых антысаветчыкаў. Больш таго, у Крамлі разумелі, што «балахоўцы» заставаліся вялікай небяспекай для ўлады Саветаў. Да таго ж большасць з іх жыла ў Заходняй Беларусі і ў выпадку магчымай вайны, улічваючы іх досвед партызанскай дзейнасці, «балахоўцы» маглі стварыць вялікія праблемы для бальшавікоў. Таму і быў распрацаваны план знішчэння Станіслава Булак-Балаховіча. Стаўка была зроблена на тое, што, калі ўдасца забіць «галоўнакамандуючага», яго былая армія перастане быць арганізаванай сілай.

## Забойца

На ролю выканаўцы забойства быў абраны былы «народны міліцыянер» Рыгор Байко (па іншых дадзеных, імя яго было Аляксандр). Байко нарадзіўся ў 1890 годзе ў Гайнаўцы. У 1920 годзе ён падтрымаў бальшавікоў, якія наступалі на Варшаву, і нават «ахоўваў парадак» на Падляшшы. Як вядома, авантура Леніна скончылася «цудам на Вісле», і хутка Войска Польскае ўжо стаяла пад Мінскам. Байко, які ў гэты час карыстаўся псеўданімам «Шумарскі», апынуўся на нелегальным становішчы, сышоў у лес і пачаў займацца браканьерствам і дробным рабаваннем.

Саветы ўзгадалі пра яго летам 1923 года. Байко загадалі падрыхтаваць і здзейсніць напад на Станіслава Булак-Балаховіча.



Станіслаў Булак-Балаховіч узнагароджвае сваіх жаўнераў



Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч

У ноч з 11 на 12 чэрвеня 1923 года невялікая група пад камандаваннем Рыгора Байко заняла пазіцыі на шашы Бельск — Белавежа і пачала чакаць ахвяру.

Некаторыя польскія даследчыкі адзначаюць, што насамрэч ехаць у гэты час павінен быў Станіслаў, аднак у апошні момант захварэў яго конь, і па справах у Гайнаўку паехаў Юзаф Булак-Балаховіч.

Што ж адбылося на лясной дарозе? Вось як апісвала тыя падзеі адна з тагачасных польскіх газет: «Генерал Балаховіч выехаў у Гайнаўку ў 8-30. Там ён сустрэўся з купцом Вішняковым і пазнаёміў таго з палкоўнікам, «балахоўцам» Перамыкіным (братам камандуючага 3-й рускай арміяй Барыса Перамыкіна). Гэта адбылося ў 16 гадзін у рэстаране Лук'янюка. [...] У Гайнаўку выехалі ў 20-30. Спераду сядзелі Булак-Балаховіч і Перамыкін, а ззаду, на мяшках, Вішнякоў. [...] На палове дарогі, калі экіпаж праехаў мясцовасць Звярынец, з цемры выйшаў чалавек, які свяціў электрычным ліхтарыкам і хрыплым голасам запытаў: «Колькі зараз часу, панове?». Балаховіч спыніў каня, а Вішнякоў дастаў гадзіннік і пры святле ліхтарыка адказаў: «Пяць хвілін дванаццатай». «Першая?» — запытаў незнаёмы. «Пяць хвілін дванаццатай», — паўтарыў Вішнякоў. «Першая?» — ізноў сказаў незнаёмы. Вішнякоў паднёс гадзіннік да самага носу незнаёмага і сказаў: «Няхай пан сам паглядзіць. Пяць хвілін дванаццатай». У гэты момант Балаховіч змяніў пазіцыю і запытаў па-руску: «Кто вы? Что вы тут делаете?». Незнаёмы ціха адказаў: «Працуем». «Где вы работаете?» — працягваў Балаховіч. «Там, у лесе», — адзначыў незнаёмы. «Где в лесу? Вы должны знать, в каком лесу и у кого вы работаете», — крычаў Балаховіч. У гэты момант незнаёмы адышоў у бок леса і пагасіў ліхтарык. У цемры было бачна некалькі людскіх фігур. Балаховіч зноў закрычаў: «Эй, сколько вас там? Все выходите на шоссе». Перамыкін выйшаў з экіпажу і тут пачуўся стрэл. Балаховіч упаў паранены. Конь спужаўся і панёсся наперад. Ззаду пачуліся стрэлы».

Далей газета паведамляла, што Перамыкін і Вішнякоў збеглі ў лес і праз некаторы час выйшлі на працоўных, якія адвялі іх у камісарыят паліцыі ў Белавежы. Адтуль яны паінфармавалі генерала Станіслава Булак-Балаховіча аб трагедыі, якая здарылася з яго братам.

## Паляванне на забойцу

Паліцыя, якая хутка была на месцы, убачыла, што побач з перакуленай павозкай ляжаў труп Юзафа Булак-Балаховіча. Куля трапіла яму ў твар і знесла палову чэрапа.

Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч абвінавціў у нападзе купца Вішнякова. Аднак сапраўдны забойца заставаўся на свабодзе.

У красавіку 1926 года Рыгор Байко забіў уласніка мясной лаўкі ў Белавежы Караля Лаша. Паліцыя параўнала два забойствы і прыйшла да высновы, што яны былі здзейснены адным чалавекам. Праз год Байко схапілі.

Падчас следства злачынца здаў сваіх паплечнікаў: Станіслава Арцішэўскага, Аляксандра Бартасяка, Міхала Лешчука. Па выніках следства адбыўся суд, які прыгаварыў Байко да смерці. Пазней, праўда, прысуд быў заменены на пажыццёвае турэмнае зняволенне.

Пасля стварэння лагера ў Бярозе-Картузскай туды, сярод іншых, перавялі і забойцу Юзафа Булак-Балаховіча. Свабоду Рыгор Байко атрымаў пасля 17 верасня 1939 года. Далейшы лёс яго невядомы.

## Эпілог

Юзафа Булак-Балаховіча пахавалі на могілках у Белавежы. На месцы забойства генерала быў пастаўлены крыж. Пасля пачатку Другой сусветнай вайны шмат былых «балахоўцаў», нягледзячы на ўзрост, пайшлі бараніць Радзіму. Брат забітага Станіслаў Булак-Балаховіч стварыў партызанскі атрад і змагаўся ў аточанай ворагам Варшаве. У маі 1940 года Юзаф быў забіты падчас спробы арышту супрацоўнікамі гестапа.

Сын Юзафа Булак-Балаховіча Здзіслаў быў жаўнерам аднаго з атрадаў Арміі Краёвай, які дзейнічаў на Навагрудчыне. «Здруй» (такі псеўданім меў хлопец) памёр ад цяжкіх ран, атрыманых у адным з баёў з немцамі ў 1944 годзе.

У 1994 годзе ля Гары Баторага ў Белавежскай пушчы пастаўлены помнік у гонар забітага генерала. А з 2010 года ў памяць пра Юзафа Булак-Балаховіча ў раёне Гайнаўкі і Белавежы адбываецца роварны рэйд.

**Фота з асабістага архіву Ігара Мельнікава**



Паліцэйскі ўчастак, Заходняя Беларусь



Жаўнеры-балахоўцы

# Ён любіў Беларусь, а памёр у Казані

Сяргей ЧЫГРЫН

**Ён сябраваў з Янкам Купалам і праходзіў па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Свой зямны шлях Уладзіслаў Чаржынскі скончыў на чужыне. Але яго крытычныя артыкулы і даследаванні беларускай літаратуры, раскіданыя па часопісах і газетах 1920–1930-х гадоў, даўно чакаюць выдання пад адной вокладкай.**



Уладзіслаў Чаржынскі, фота канца 1960-х гадоў



Уладзіслаў Чаржынскі (сядзіць трэці справа) з беларускімі літаратарамі, Мінск, 1922 г.

## Знаёмства

Беларускі літаратуразнавец, крытык, лексікограф і педагог Уладзіслаў Чаржынскі (1897–1974) нарадзіўся на Беласточчыне. Пачатковую адукацыю атрымаў у народным вучылішчы. Скончыў Мінскую гімназію і Белдзяржуніверсітэт. Працаваў настаўнікам на Лагойшчыне, а таксама выкладчыкам у Інстытуце беларускай культуры і ў Камуністычным універсітэце Беларусі. З 1922 года пачаў выступаць з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі ў беларускім друку. А з 1925 года супрацоўнічаў з часопісам «Полымя».

Уладзіслаў Чаржынскі пад сваім уласным прозвішчам, а таксама пад псеўданімамі Ул. Дзяржынскі і Улідзе друкаваў артыкулы, у якіх даваў грунтоўны эстэтычны аналіз як асобных мастацкіх твораў, так і літаратурнага працэсу ў цэлым. Многія яго матэрыялы, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Цішкі Гартнага, Янкі Журбы і іншых беларускіх пісьменнікаў, уражваюць і сёння глыбінёй і жывасцю даследчыцкай думкі, аргументаванасцю і пластычнасцю стылю.

Працы Уладзіслава Чаржынскага каштоўныя сёння яшчэ тым, што ў супярэчлівы і жорсткі час канца 1920-х гадоў у сваіх ацэнках ён кіраваўся эстэтычнымі крытэрыямі, а не догмамі.

19 лютага 1925 года была створана літаратурная секцыя Інбелкульту (40 сяброў), якая потым аб'ядналася з секцыяй беларускай мовы. Сакратаром аб'яднанай секцыі быў Уладзіслаў Чаржынскі. Ім ка апрацоўваліся матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры для кніг прафесара М.Янчука, Я. Барычэўскага, А.Вазнясенскага.

А ў 1926 годзе ён разам з Максімам Гарэцкім і Паўлам Караваем падрыхтаваў і выдаў дапаможнік «Выпісы з беларускае літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя». Праўда, у Мінску ў 1928 годзе выйшла і асобным выданнем праца Уладзіслава Чаржынскага «Да пытання аб псіхалагічным стылі нашаніўскай паэзіі». І, як піша Аўген Калубовіч у сваёй кнізе «На крыжовай дарозе», Чаржынскі з'яўляецца таксама аўтарам «Слоўніка гісторыка-грамадазнаўчых тэрмінаў».

## Казань

28 чэрвеня 1930 года Уладзіслаў Чаржынскі быў арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года яго выслалі ў Казань тэрмінам на 5 гадоў. Праз 4 гады нашага земляка вызвалілі ад высылкі, але рэабілітавалі яго толькі пасля смерці ў 1988 годзе.

З Татарстана больш Уладзіслаў Чаржынскі на бацькаўшчыну не вярнуўся. Але ці поўнасцю адышоў ён ад літаратурнай і крытычнай дзейнасці — цяжка сказаць. Тым не менш, беларускімі пісьменнікамі і роднай літаратурай ён моцна цікавіўся і тады, калі 40 гадоў жыў у сталіцы Татарстана.

У архівах і музеях Казані я адшукаў цікавыя звесткі пра Уладзіслава Чаржынскага. У архіве Казанскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта захоўваюцца дзве асабістыя справы Уладзіслава Чаржынскага за перыяд 1933–1946 гадоў і 1950–1971 гадоў. Найбольш каштоўнымі дакументамі з'яўляюцца асабісты лісток па ўліку кадраў і характарыстыкі Чаржынскага, розныя загады, справаздачы і выпіскі, фотаздымкі і іншыя матэрыялы.

Знойдзена таксама аўтабіяграфія нашага земляка, якая напісаная ім асабіста 27 красавіка 1943 года: «Нарадзіўся я ў 1897 годзе ў былой Гродзенскай губерні Сакольскага павета, вёсцы Стара-Каменная (па іншых крыніцах, Старакаменная. — С.Ч.) у сялянскай сям'і. У бацькі майго было 5 дзесяцін зямлі, якую ён апрацоўваў сам асабіста пры дапамозе сваёй сям'і. Пачатковую адукацыю я атрымаў у пачатковым народным вучылішчы, пасля заканчэння якога паступіў у Гродзенскую казённую гімназію, дзе і вучыўся да 1914 года (пасля яе эвакуацыі перавёўся ў Мінскую гімназію. — С.Ч.). Матэрыяльную дапамогу атрымліваў ад старэйшага брата, які знаходзіўся на заробках у Амерыцы. У 1915 годзе мая радзіма была акупіраваная нямецкімі войскамі. Я паехаў у Ленінград, дзе і працягваў сваю адукацыю. У 1917 годзе я пераехаў у Мінск і да 1920 года працаваў хатнім настаўнікам у Вілейскім павеце. У 1921 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне, якое скончыў у 1925 годзе. У час вучобы ва ўніверсітэце працаваў у беларускім дзяржаўным выдавецтве і выкладаў на рабфаку ўніверсітэта. З 1925 года працаваў у якасці навуковага супрацоўніка ў Інстытуце беларускай культуры, а потым у Беларускай Акадэміі Навук. Адначасова выкладаў у Беларускім камуністычным універсітэце. У 1930 годзе я быў адміністратыўна высланы з Мінска ў горад Казань, тэрмінам на пяць гадоў. У Казані з 1931 да 1935 года я працаваў метадыстам у Інстытуце павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і ў педагагічным інстытуце. З 1933 года па сумяшчальніцтву працаваў выкладчыкам у Казанскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (да 1936 года), а затым да 1940 года штатным выкладчыкам. З 1940 года штатную пасаду выкладчыка займаю ў Казанскім дзяржаўным стаматалагічным інстытуце, а ў КДМІ працую па сумяшчальніцтву».



Личный листок по учету кадров

Фамилия Чаржинский
Владислав отчество Викентьевич
Пол м. 3. Год рождения 1897 4. Место рождения:
по существующему адм. делению
по существовавшему адм. делению дер. Старокаменная Сокольского уезда Гродненской губ.
Национальность белорус 6. Соц. происхождение:
бывш. сословие (звание) родителей крестьяне
основное занятие родителей до Октябрьской революции земледелие, после Октябрьской революции ...
7. Основная профессия (занятие) в настоящее время (для членов ВКП(б)—к моменту вступления в партию) преподаватель стаж работы по этой профессии ...
8. Соц. положение служ. 9. Партийность б/п 10. Какой организацией принят в члены ВКП(б) —
11. Партстаж — № партбилета — или к/карточки —
Стаж пребывания в ВЛКСМ с — по — 13. Состоял ли в других партиях (каких, где, с какого и по какое время) не состоял
14. Состоял ли ранее в ВКП(б) нет с какого и по какое время — и причины исключения или выбытия —
Были ли колебания в проведении линии партии и участвовал ли в оппозициях (каких, когда) —
Членом какого профсоюза состоит и с какого года Медсантруд с 1934 г.
Образование высшее

| Подробное название учебного заведения (вуза, втуза, техникума, комвуза, школы и пр.) и его местонахождение | Название факультета или отделения | Дата (м-ц, год) поступления | Дата (м-ц, год) окончания или ухода | Окончил или нет | Если не окончил, то с как. курса ушел | Какую (узкую) специальность получил в результате окончания учебного заведения |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| Белорусский Государственный Университет | Этнолого-лингвистическое отд. | 1921 | 1925 | да | – | Белорусский язык и литература |

Ученая степень (звание) Нет 19. Имеет ли научные труды и изобретения — (перечень научных трудов и изобретений с указанием, по каким вопросам и где опубликованы, необходимо дать в приложении).
Был ли за границей нет

| Дата (м-ц, год) с какого времени | по какое время | В какой стране (указать город) | Цель пребывания за границей |
| --- | --- | --- | --- |
| | | | |

Татполиграф 001731

У медычных навучальных установах Казані Уладзіслаў Чаржынскі выкладаў латынь, нямецкую і рускую мовы.

Сярод выяўленых казанскіх дакументаў ёсць і цікавая выпіска з загада № 91 рэктара Казанскага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга медыцынскага інстытута імя С.В.Курашова ад 19 мая 1967 года. У ёй гаворыцца, што ў «сувязі з 70-годдзем і 45-годдзем педагагічнай дзейнасці, з якіх 35 гадоў аддадзена падрыхтоўцы медыцынскіх кадраў у стаматалагічным і медыцынскім інстытутах Казані, за бездакорную творчую працу, чулыя і прынцыповыя адносіны да студэнтаў старшаму выкладчыку У.В. Чаржынскаму аб'явіць падзяку з занясеннем у асабістую справу. Падстава: прапанова заг.кафедры К.Л.Раскіна. Рэктар інстытута — прафесар Х.Хамітаў».

Дарэчы, у той час у Казанскіх медыцынскіх навучальных установах працавала вельмі многа ўраджэнцаў Беларусі, асабліва шмат было яўрэяў. Той самы Канэль Раскін быў родам з-пад Оршы, Ісак Алуф быў родам з Полацка. Магчыма, дзякуючы іх дапамозе, Уладзіслаў Чаржынскі ў 1930-х гадах і ўладкаваўся на працу ў Казанскі мединстытут. А, магчыма, дзякуючы яго жонцы Чэрні Плаўнік.

У чэрвені 1971 года Уладзіслаў Чаржынскі напісаў на імя рэктара заяву з просьбай «вызваліць яго ад займаемай пасады ў сувязі з сыходам на пенсію». Тым больш, што яму ўжо было тады 74 гады. Рэктар задаволіў просьбу Чаржынскага.

У Казані Уладзіслаў Чаржынскі пражыў яшчэ тры гады, і 2 красавіка 1974 года яго не стала. Там яго і пахавалі на Арскіх могілках.

## Янка Купала

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску захоўваюцца купалаўскія запісы (адз. зах. 459–461) маскоўскіх і казанскіх тэлефонаў і адрасоў асоб, з якімі паэт быў звязаны па службовых і асабістых справах. Сярод адрасоў Казані я знайшоў і каардынаты Чаржынскага: «Чаржынскі. Держинского, 15, кв. 8».

У лістападзе 1941 года Янка Купала прыехаў у Татарстан і пасяліўся разам з Уладзіславам Францаўнай непадалёку ад Казані ў пасёлку Пячышчы ў дырэктара мельзавода І.Я.Наякшына. Тут ён жыў і час ад часу наведваў Казань, дзе спыняўся ў гасцініцы «Татарстан». З Наякшынымі Купала шчыра сябраваў, яны разам нават сустракалі новы 1942 год на кватэры Юдзіных у Верхнім Услоне.

Янка Купала часта выступаў на мітынгах, па радыё, з дакладамі сярод беларускай і татарскай інтэлігенцыі, пісаў вершы і прадмовы. Заходзіў ён у госці і да сям'і Чаржынскіх. Дарэчы, жонкаю Уладзіслава Чаржынскага была родная сястра Змітрака Бядулі — Чэрня Плаўнік.

З Уладзіславам Чаржынскім Янка Купала ў Казані шмат сустракаўся. Яны вялі размовы пра вайну, пра 1920–1930-я гады і рэпрэсіі, а таксама пра літаратуру.

4 мая 1942 года Янка Купала зноў сустрэўся з сям'ёй Чаржынскіх, якая наведала яго ў Пячышчах. Купала падараваў Чаржынскім сваю кнігу вершаў і паэм «От сердца», што выйшла на рускай мове ў Маскве. На кнізе Купала напісаў «Дарагім Чаржынскім на памяць. Янка Купала. Пячышчы. 4.V.1942г.»

18 чэрвеня Янка Купала пакінуў Татарстан і прыехаў у Маскву, дзе праз 10 дзён трагічна загінуў у гасцініцы «Масква».

# На фоне Рушчыца музыкі гралі...

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Нацыянальны мастацкі музей — гэта не толькі самы вялікі ў краіне збор твораў жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладного мастацтва, але і асветніцкая ўстанова. Яе супрацоўнікі шмат робяць для таго, каб наведвальнікі не толькі вучыліся разумець прыгожае, але і ўсведамлялі сябе прыналежнымі да беларускага свету — свету добразычлівых і таленавітых людзей.**



**Новы твар гурта «Альтанка».** Фота Анатоля Мяльгуя

Памятаю часы, калі сімвалам высокага інтэлектуальнага ўзроўню чалавека было ўжыванне ім слова «экзістэнцыяльны». Пасля лакмусавай паперкай адукаванасці стала выкарыстанне слова «трансцэндэнтны». Сёння маркерамі інтэлекту выступаюць такія тэрміны, як «трэнд» альбо «тэхналагічная сінгулярнасць». Не менш актуальным застаецца слова «парадыгма» (ад грэчаскага paradeigma — прыклад, узор), «сукупнасць тэарэтычных і метадалагічных перадумоў, якія вызначаюць канкрэтнае навуковае даследаванне і з'яўляюцца мадэллю, узорам пастаноўкі і рашэння даследніцкіх задач», — так вызначае гэтае паняцце Вікіпедыя.

Арганізатары асветніцкага мерапрыемства «Этнапарадыгма», якое адбылося ў НММ РБ, ставілі за мэту паказаць на разнастайных прыкладах узор таго, што і як даследуецца ў сумежных з этнаграфіяй галінах навукі і мастацтва. Адсюль і назва лекторыя «Этнапарадыгма», у праграме якой наведвальнікам музея была прапанавана лекцыя «Беларуская этнакасмалогія» навуковага супрацоўніка НАН РБ, даследчыка старажытных беларускіх назваў, легендаў і ўяўленняў пра зорнае неба Цімафея Авіліна. Ну а ў якасці ўзораў музычнай парадыгмы ў сучасных глабалізаваных умовах арганізатары прапанавалі канцэртныя сэты ад этна-гурта «Альтанка» і гурта інтуітыўнай імправізацыі «Князь Мышкін».

Думаю, што Цімафей Авілін, якому першаму далі слова, не чакаў такой зацікаўленасці наведвальнікаў музею інфармацыяй, якую ён прапанаваў ім падчас лекцыі. Для многіх стаў адкрыццём той факт, што ў Беларусі, як нідзе, захавалася шмат цікавых паданняў адносна астранамічных з'яў, бачных сузор'яў, нашай галактыкі, планет, спадарожніка Зямлі — Месяца, метэораў. Усе яны маюць у народзе свае адметныя назвы: напрыклад, Млечны шлях па-нашаму завецца Птушынай дарогай. Паданне, па словах Авіліна, гаворыць, што Бог стварыў гэтае зорнае скопішча для таго, каб птушкі ведалі, куды ляцець на зіму, у якім напрамку вырай. Але зафіксаваны і такія назвы, як Чумацкі шлях, Дарога на Кіеў. Бо гэтая астранамічная з'ява ўказвала дарогу ў той бок, куды чумакі рушылі за соллю. Гэта вынік практычнага выкарыстання астраноміі нашымі продкамі. А вось калі казаць пра метафізічны сэнс назваў, то беларусы верылі, што Птушынай дарогай ходзяць святыя, а душы памерлых адлятаюць у лепшы свет.

Цімафей Авілін падрабязна спыніўся на этымалогіі беларускай назвы сузор'я Вялікая Мядзведзіца. Ён зазначыў, што, магчыма, старажытныя беларусы ў гэтай з'яве бачылі калясніцу паганскага бога Перуна. Таму і народная назва сузор'я была Воз ці Калясніца. Зафіксаваныя і іншыя назвы: Чарпак, Коўш.

Цікавымі падаліся слухачам інтэрпрэтацыі назваў сузор'я Арыён. Беларусы называлі яго Касцы, бо нібыта пасля таго, як гэтае сузор'е з'яўлялася на небе, пачыналіся палявыя работы. Былі зафіксаваныя і такія назвы, як Каромысел і Тры Каралі (маюцца на ўвазе біблейскія Тры Валхвы).

А вось Плеяды ў беларускім народзе зваліся Сіта, альбо мелі агульнаеўрапейскую назву — Курачкі. Таксама зафіксаваны назвы Стажары, Валасажар, Кучкі, Купкі, Сем мальцаў.

Палярная зорка ў беларускай этнаастраноміі называлася Паўночнай зоркай, Зорным калом, бо ніколі не мяняла свайго месца на зорным небасхіле і заўсёды паказвала напрамак на поўнач. Вядома, што Зорны кол — пачатак сузор'я Малой Мядзведзіцы, па-беларуску — Малога Возу.

Шмат увагі Авілін надаў такой астранамічнай з'яве, як падаючыя зоркі, бо нашы продкі верылі, што кожная з іх — гэта душа чалавека. Таму лічылася дурнотай тыкаць у неба пальцам, бо можна было патрапіць ім у чужую ці ў сваю душу і так загубіць яе. Слухачы таксама даведаліся, як у нашых дзядоў і бабуль звалася Венера. А мела яна назву Ранішняя ці Вячэрняя зорка. Яшчэ адна прыгожая назва — Дзянніца. А вось такая назва Венеры, як Мілавіца — хутчэй паэтычная прыдумка, але яна прыжылася (як і назва падаючай зоркі — знічка) і стала часткай сучаснага этапу беларускай этнаастраноміі...

Трэба адзначыць, што Цімафей Авілін анансаваў хуткі выхад сваёй кнігі, у якой ён абагульніў усе свае даследаванні, вынікі этнакасмалагічных экспедыцый па шматлікіх рэгіёна краіны. Гэтая навіна выклікала нямала пытанняў да лектара, прымусіла Цімафея прачытаць для цікаўных сваю інтэрактыўную лекцыю яшчэ раз, хоць і ў тэзісным варыянце.

А ў гэты час на сцэну ўжо выйшлі ўдзельнікі гурта «Князь Мышкін». Музыканты прапанавалі слухачам сваю імправізацыю, якая, па словах лідара гурта Лявона Нарушэвіча, была задуманая як своеасаблівы музычны адпаведнік далікатнай музейнай атмасферы: музыканты шмат выкарыстоўвалі духавых інструментаў, у прыватнасці, духавы інструмент аўстралійскіх абарыгенаў — дзіджэрыду, набор разнастайных званочкаў ды іншых дробных ударных. Не было чуваць магутных рок-рыфаў ці гукавога фарсажу. Музыканты засяроджваліся на імправізацыйна-джазавай частцы кампазіцыі, на гармоніі акустычных гукаў і тэмбраў незвычайных інструментаў, на суладдзі з музейнай аўрай. І гэта музыкантам удавалася. Мо таму, што іх матываваў геніяльны алейны шэдэўр беларускага мастака Ф. Рушчыца «Вясна», які быў выстаўлены за іх спінамі.

Этна-гурт «Альтанка» яшчэ раз засведчыў тое, што яго ўдзельнікам уласціва імкненне да змен у лепшы бок. Так, гурт зрабіў крок ад банальнай балалаечнай капэлы да паўнавартаснага беларускага этнічнага музычнага калектыву. Свой варты ўнёсак у добрыя змены «Альтанкі» зрабіла і салістка Дар'я Лаўрэнцьева, якая надала сваімі спевамі гэтаму струннаму ансамблю лірызму і пранікнёнасці. Мо таму слухачы цёпла віталі новыя кампазіцыі гурта «Альтанка» — апрацоўкі народных песень «Купала», «Юр'я», «Голуб на дубочку», «Як на рэчцы».

На жаль, такія імпрэзы ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі пакуль яшчэ рэдкасць.




**Цімох Авілін распавядае пра беларускую этнакасмалогію.** Фота Анатоля Мяльгуя

# Пакручасты лёс беларусаў

**У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет кніга прозы Васіля Жуковіча «Арабінавая ноч». Яна стала новым выпускам серыі «Кнігарня пісьменніка» ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**




Кніга заснаваная на жыццёвым досведзе аўтара. Найбольш старонак прысвечана апавяданням побытавага характару, але празаік не канцэнтруецца на жыцці пэўнай вёскі альбо на апісанні пэўнага часу: у творах падаецца эпізоды з даваеннага жыцця заходнебеларускай вёскі, гады нямецкай акупацыі і вывазу беларусаў у Нямеччыну, сталінскія гады ў Мінску, моладзь шасцідзесятых, а таксама і нашыя часы 2000-х.

Жанрава «Арабінавая ноч» адрозніваецца пэўнай разнастайнасцю: у кнізе прадстаўленыя і творы малафарматныя — абразкі і апавяданні, вылучаныя ў асобны раздзел, — і больш аб'ёмная аповесць «Пасланне ў іншасвет, альбо Развагі максімаліста». Яна пабудаваная як ліст лірычнага героя да памерлага дзядулі, у лісце раскрываецца ўвесь пакручасты лёс беларуса ў час гістарычных выпрабаванняў для краіны: няпростыя сямейныя стасункі, уцёкі з выгнання і працы ў нямецкага баўэра і вяртанне на Радзіму.

Празаічныя творы Васіля Жуковіча друкаваліся ў літаратурнай перыёдыцы, у тым ліку ў часопісе «Дзеяслоў» і дадатку да газеты «Новы Час» «Літаратурная Беларусь», але кнігай выходзяць упершыню з 1980 года.

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1355

Падпісана да друку 23. 10.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.